№12(33)
2001г.
снежань

# ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

Грамадска - палітычная, асветніцкая газета
Выдаецца са жніўня 1996 г.
Кошт свабодны

У 2003 годзе ў Барысаве пачне працаваць прафесійны тэатр!

Пра гэту і іншыя навіны тэатральнага жыцця Барысаўшчыны чытайце на старонцы 12




Працяг тэмы чытайце на старонцы 3

Перадкалядная Сха ў Барысаве












## "Лета і восень праспалі"

22 лістапада ў Барысаве адбылося выязное пасяджэнне Менаблвыканкама, дзе разглядаліся пытанні падрыхтоўкі да святкавання 900-годдзя горада.

Мэр горада В.І. Бургун далажыў аб праведзенай за апошні час працы па рамонту і добраўпарадкаванню горада. Старшыня аблвыканкама М.Ф.Дамашкевіч, даючы ацэнку зробленай да юбілею працы, адзначыў, што "лета і восень праспалі".

Начальнік інстытута ППК МНС Г.В.Новік і дырэктар завода "Чырвоны металіст" І.І.Трусаў гаварылі пра неабходнасць ушанавання памяці І.Х.Каладзеева. Былі абмеркаваны далейшыя планы па падрыхтоўцы да юбілею.

*Служба інфармацыі "ГБ"*

## Помнік князю Барысу

На пасяджэнні з нагоды падрыхтоўкі да юбілею горада быў прадстаўлен зменшаны макет помніка князю Барысу, які плануецца ўстанавіць каля Свята-Васкрасенскага сабора.

Князь Барыс будзе ўвекавечаны ў бронзе з мячом у левай руце, які апушчаны вастрыём уніз. За спіной князя – анёл-ахоўнік. Вышыня помніка 4,5 м. Праект выкананы менскімі скульптарамі А.Арцімовічам і І.Марозавым.

Шырокай грамадскасці праект помніка пакуль што не прадстаўлен, пасля пасяджэння макет яго вярнуўся ў Менск.

*Служба інфармацыі "ГБ"*

## З адзнакай "здавальняюча"

Такую адзнаку атрымаў гарадскі аддзел адукацыі па выніках франтальнай праверкі абласным кіраўніцтвам.

Два тыдні напружана працавала аўтарытэтная камісія, правяраючы ўзровень адукацыйных устаноў горада. Як аказалася, станоўчага ў нашых школах на шмат больш, чым адмоўнага.

20-га лістапада абласная калегія на базе гімназіі № 1 падвяла вынікі праверкі.

Рэдакцыя газеты віншуе аддзел адукацыі і калектывы школ горада з поспехам.

*М.Пучыла*

## Міжнародны дзень барацьбы са СНІДам

1 снежня ў горадзе і раёне прайшлі мерапрыемствы, якія былі прысвечаны барацьбе са СНІДам. Непакоіць тое, што і на Беларусі колькасць хворых безупынна расце. Па стану на 1.10.2001 г. у рэспубліцы інфіцыраваных налічвалася 3797. Больш за ўсё іх у Менску і Гомельскай вобласці.

На Барысаўшчыне зафіксавана 6 выпадкаў захворвання: два ў горадзе і чатыры ў раёне.

*М.Пучыла*

*Карэспандэнцкі пункт нашай газеты знаходзіцца па адрасе:* ***пр-т Рэвалюцыі, 33***
*Чакаем вас у* ***аўторак*** *з* ***15*** *па* ***17*** *гадз.,*
*у* ***чацвер*** *з* ***10*** *па* ***11*** *гадз.*
*У гэты ж час тэлефануйце нам па тэлефоне* ***6-35-81***

***Падпісвайцеся на газету "Гоман Барысаўшчыны"!***

***Кошт індывідуальнай падпіскі без тэлевізійнага дадатку:***
на 1 месяц - 250 руб., на 3 месяцы - 750 руб.
***Кошт індывідуальнай падпіскі з тэлевізійным дадаткам:***
на 1 месяц - 550 руб., на 3 месяцы - 1650 руб.
***Кошт ведамаснай падпіскі без тэлевізійнага дадатку:***
на 1 месяц - 350 руб., на 3 месяцы - 1050 руб.
***Кошт ведамаснай падпіскі з тэлевізійным дадаткам:***
на 1 месяц - 750 руб., на 3 месяцы - 2250 руб.

## Ад нумара да нумара

***Змена***

*У раённай арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі адбылася змена кіраўніцтва. Старшынёй арганізацыі абраны кіраўнік фірмы "Панацэя" Л.Ф.Марголін.*

***Конкурс***

*9 школ прынялі ўдзел у конкурсе плакатаў на антынікацінавую тэматыку пад назвай "Мне не ўсё роўна, а табе?". Лепшы плакат прадставілі вучні 20 СШ, на другім месцы – СШ № 24, на трэцім - №3.*

***Клуб дэтэктываў***

*У вёсцы Стара-Барысаў арганізаваны клуб "Юны дэтэктыў", дзе праходзяць турніры па прававых пытаннях між вучнямі школ Барысаўшчыны. Днямі прайшла гульня між камандамі Старабарысаўскай і Лошніцкай школ, якая скончылася перамогай старабарысаўскіх дэтэктываў.*

***Дзень прызыўніка***

*24 лістапада ў сувязі з "Днём прызыўніка" маладыя людзі і іх бацькі змаглі наведаць вайсковыя часткі горада, дзе яны азнаёміліся з умовамі службы беларускіх вайскоўцаў.*

***Законапраект***

*У студзені наступнага года Нацыянальны сход будзе разглядаць праект, згодна якому плануецца скараціць тэрмін вайсковай службы да аднаго года. Для студэнтаў тэрмін службы складзе 9 месяцаў.*

***Лёгкай пары!***

*Жадаючых папарыцца запрашае баня ў старым горадзе, якая адчынілася пасля рэканструкцыі. Кошт білета – 440 руб., для пенсіянераў –310 руб.*

***"Мінімалка"***

*З 1 снежня памер мінімальнай зарплаты складае 10 тыс.руб. Адпаведна ўзраслі ўсе плацяжы, звязаныя з узроўнем "мінімалкі", г.зн. розныя пошліны, падаткі, штрафы і г.д.*

***Аварыя***

*З прычыны аварыі на цеплатрасе вучням школы мастацтваў №2 некалькі дзён давялося займацца ў халодных класах.*

***Дэгустацыя***

*Пасяхова прайшла дэгустацыя напояў, арганізаваная ААТ "Каскад" у краме №18 на бульвары Камарова. Усе жадаючыя маглі паспрабаваць салодкую газіроўку і мінеральную ваду, якую выпускае таварыства.*

***Наркотыкі***

*У бліжэйшы час ў горадзе плануецца адкрыць пункт па абмену шпрыцаў для асоб,што ўжываюць наркотыкі. Такіх афіцыйна зарэгістравана ў горадзе 206 чалавек. Пераважна гэта моладзь да 30 гадоў.*

***Служба інфармацыі "ГБ"***




# У Еўропу пакуль рана

*Усю восень ішла перабудова заправачнай станцыі на вуліцы Гагарына. Адкрыццё запраўкі пасля рэканструкцыі – значная падзея для горада.*

Пра гэта сведчыць і той размах, з якім адзначаўся пачатак працы аднаўленай станцыі. Сабралася ледзь не ўсё кіраўніцтва канцэрна "Белнафтахім", мэр горада і г.д. Газеты абвесцілі пра адкрыццё ў нашым горадзе аўтазапраўкі еўрапейскага ўзроўню.

Пасля таго, як давялося запраўіць там аўтамабіль, мушу адзначыць, што фактычна абслугоўванне кліентаў на станцыі засталося на тым жа ўзроўні.

Што патрэбна кліенту ад "запраўкі"? Правільна, заправіцца газай або саляркай. Але гэтую функцыю станцыя выконвала і раней. Чым жа можа парадаваць кліента аднаўленая станцыя? Толькі дахам над калонкамі, ды трохі лягчэйшымі пісталетамі.

А дзе ж еўрапейскі ўзровень? Як і раней, трэба спачатку "зганяць" заплаціць грошы, а потым заліць адмераную порцыю паліва, хаця на нармальнай запраўцы гэта робіцца зусім па-іншаму. Дзе крамка, у якой можна набыць неабходныя ў дарозе прадукты, новы акамулятар, буксіровачны трос або просты скрабок для знішчэння наледзі са шкла. Дзе кубачак гарачай кавы?

Чаму, як і раней, прыходзіцца пэцкаць падэшвы на бруднай пляцоўцы, хоць яна і аздоблена новай пліткай? Дзе прадугледжаныя праектам падкачка шын і чыстка салона?

На мае пытанні працаўніцы станцыі адказалі проста: "Усе гэтыя выгоды не для нашых людзей". Яны, маўляў, быдла і да такіх выгод не дараслі.

Вось вам і цывілізацыя. А, між тым, яна пачынаецца там, дзе людзі паважаюць адзін аднаго. І чалавек, які працуе дзеля выгод другога, не глядзіць на свайго кліента, як на быдла. А ўжо да гэтага можна прыкладаць і нейкія тэхнічныя новаўвядзенні.

***Е.Граковіч***

# У падтрымку чалавечай годнасці

*У межах рэспубліканскай акцыі "У падтрымку чалавечай годнасці" ў горадзе на працягу трох дзён ішлі мерапрыемствы з удзелам юных барысаўцаў-інвалідаў.*

Многія цэнтральныя газеты ўдзялілі ўвагу дзецям-інвалідам. На Беларусі налічваецца 113 тысяч такіх дзяцей. 1300 з іх навучаецца ў ПТВ, 4 тысячы – у ВНУ. 467 інвалідаў дзіцячага ўзросту жывуць у Барысаве, з іх дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця 202. У школах горада працуе 39 інтэгрыраваных і 9 спецыяльных класаў, дзе навучаюцца такія дзеці.

У гарадскім спорткамбінаце прайшло у гэтыя дні свята, дзе дзеці-інваліды ўдзельнічалі ў спаборніцтвах і гульнях. Юныя параспартсмены атрымалі прызы, падрыхтаваныя спонсарамі.

Для дзяцей-інвалідаў Барысаўскага раёна ў Палацы культуры саўгаса "Стара-Барысаў" была падрыхтавана праграма "Ад сэрца да сэрца". У праграме прыняў удзел фальклорны ансамбль з Мётчы "Берагіня".

3 снежня – у Міжнародны дзень інвалідаў–цікавую канцэртную праграму для інвалідаў усіх узростаў паказалі работнікі гарадскога Палаца культуры.

Істотна, што ў гэтыя дні інваліды атрымалі і матэрыяльную падтрымку. Радуе, што ў грамадстве расце разуменне праблемы інвалідаў.

***Служба інфармацыі "ГБ"***

# Адбудзецца прыём грамадзян па асабістых пытаннях

17 снежня 2001 г. з 9.00 па 12.00 у Барысаўскім гарвыканкаме (вул. Чапаева, 6, каб. № 214) будзе весці прыём грамадзян па асабістых пытаннях дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па гарадской выбарчай акрузе №77 Віктар Аляксандравіч Гумінскі.

Запісацца на прыём можна ў гарвыканкаме (каб. № 214) альбо па тэлефоне 3-31-13 з 9.00 па 16.00 у працоўныя дні тыдня.

***Служба інфармацыі "ГБ"***

# Ледзь – ледзь пазней

*Усё, што павінна адбывацца ў прыстойным горадзе, у нашым Барысаве адбываецца абавязкова.*

Напрыклад, абледзянелыя вуліцы пасыпаюцца пяском. Але чамусьці стала традыцыяй рабіць гэта ледзь-ледзь пазней, пасля таго, як добры тузін аўтамашын паб'еццa, а пешаходы добра намнуць бакі ды, яшчэ горш, атрымаюць траўмы.

Сёлета, калі ў горад прыйшла зіма, у камунальшчыкаў ішло па плану прыбіранне лісця. Гэтым і займаліся. А між тым пасажырскі аўтобус вынесла за межы дарогі. Добра, што лёгка абышлося.

Лядок крыху знесла, затое прыціснуў мароз. Завезлі ў горад зімовую салярку? Абавязкова.

Але зноў жа тады, калі добрыя халады прастаялі некалькі дзён, і ўладальнікі "дызель-матораў" памарозілі сваіх жалезных коняў.

Што ж зробіш, такая традыцыя ў нас!

***Е.Граковіч***

# Траса для каскадзёраў

Ужо некалькі год прамежак вуліцы імя Дзяржынскага ад вул. III Інтэрнацыянала да вул. Лапаціна падобны на трасу для каскадзёраў. Вадзіцелі стараюцца аб'ехаць гэтае месца іншай дарогай, а тыя, што трапілі сюды, – паўзуць як чарапахі.

Прычына бездарожжа ў тым, што некалькі раз запар тут рамантаваліся цеплавыя сеткі. Відаць, адказныя чыноўнікі і цяпер няўпэўнены, што не прыдзецца капаць ізноў.

Ёсць прапанова да 900-годдзя арганізаваць тут міжнародныя ралі.

***М.Пучыла***

# Міжнародны цэнтр на Барысаўшчыне

*У Светлым Гаі на Барысаўшчыне размешчаны інстытут перападрыхтоўкі і павышэння кваліфікацыі Міністэрства надзвычайных сітуацый РБ.*

Экспертыза заходніх спецыялістаў адзначыла высокую ступень гатоўнасці і непаўторныя магчымасці аператыўна-тактычнага палігона інстытута. Было зроблена заключэнне аб магчымасці стварэння на яго базе Міжнароднага цэнтра падрыхтоўкі ратаўнікоў.

Пры садзейнічанні Міністэрства замежных спраў наладжаны кантакты паміж Швейцарыяй і Беларуссю, адбыўся абмен візітамі між кіраўнікамі Дырэкцыі развіцця і супрацоўніцтва Міністэрства замежных краін Швейцарыі і Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Рэспублікі Беларусь. Вынікам такіх кантактаў з'явіліся прапановы па рэалізацыі наступных праектаў:

– аказанне дапамогі рэспубліцы па пераадоленню наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС;

– стварэнне Міжнароднага цэнтра падрыхтоўкі ратаўнікоў на базе ІППК з далейшым стварэннем пры ім Фонда падтрымкі адукацыі ратаўнікоў краін СНД;

– рэалізацыя сацыяльнай праграмы па зніжэнню гібелі людзей на пажарах;

– рэалізацыя культурнай праграмы па будаўніцтву помніка ахвярам трагедыі пры пераправе напалеонаўскай арміі праз р.Бярэзіну ў 1812 г., а таксама стварэнне культурнага цэнтра "Швейцарскі дом" ля месца пераправы.

29 лістапада падпісаны першы дагавор і першы транш у суме 575500 даляраў ЗША для будаўніцтва інтэрната на 190 месц на тэрыторыі інстытута і 100000 даляраў ЗША на рэалізацыю сацыяльнай праграмы па зніжэнню гібелі людзей на пажарах. Швейцарскія партнёры выразілі гатоўнасць да рэалізацыі ўсіх намечаных праектаў і да далейшага супрацоўніцтва з МНС Рэспублікі Беларусь.

***А.Дуньковіч, намеснік начальніка ІППК МНС РБ***

# Шаноўныя чытачы

## цэнтральнай гарадской бібліятэкі і яе філіялаў!



Напярэдадні "Дня вернутай кнігі", які праходзіў у бібліятэцы 28-29 лістапада, мы звярнуліся да Вас з просьбай – вярнуць кнігі ў бібліятэку.

На жаль, вынікі аказаліся несуцяшальнымі: з 1500 чытачоў толькі 92 прыйшлі да нас. Гэта значыць, што з 6000 кніг у бібліятэку вярнулася толькі 181. Чытачы старога горада з 1400 асобнікаў вярнулі толькі чатыры.

Згадзіцеся, мы не можам быць абыякавымі да таго, што з 6000 кніг, каторыя патрэбны людзям і карысталіся попытам, раптам зніклі з нашых вачэй, "змярцвеўшы" як частка культурных духоўных каштоўнасцяў нашага горада. Напамінаем, што сярэдняя рыначная цана кнігі сёння 3000 руб.

Мы спадзяёмся, што ў бліжэйшы час многія з вас ізноў наведаюць бібліятэку і вернутыя кнігі зоймуць сваё месца на кніжнай паліцы. Іх чакаюць зацікаўленыя чытачы.

Калі ласка, вярніце кнігі бібліятэцы!

***А.Акулава,загадчыца аддзелам маркетынга ЦГБ***

# Шаноўныя і дарагія

**жыхары Барысава і ваколіц!**

Прадбачанне Божае дае нам мажлівасць удзелу ў сапраўднай радасці, а гэта ўжо з нагоды 2002-гадавіны нараджэння таго, каго наш Творца абяцаў паслаць на ратунак людскога роду адразу пасля няшчасця ў выпадку першароднага граху. Як прадстаўляе Евангелле: "надышоў час радзіць Марыі; і ўрадзіла Сына Свайго Першага, і палажыла яго ў жолаб, бо не было ў ім месца ў заез'дзе" (Лк. 2, 6-7).

Як бачым, калі Езус становіцца адным з нас, Ён свядома прымае найцяжэйшыя варункі жыцця. Ніхто з нас не можа сказаць: "Ты не цярпеў столькі, колькі я". Езус уваходзіць у сям'ю бедную, але святую. Галава сям'і быў "чалавекам справядлівым", а яго жонка была "поўная ласкі". З другога боку, толькі што народжаны Езус становіцца для бацькоў не толькі прычынай клопатаў, але і немалых цярпенняў: "...вось, Анёл Гасподні з'яўляецца ў сне Язэпу і кажа: "Устань, вазьмі Дзіця і матку яго і бяжы ў Егіпет і будзь там, дакуль не скажу табе; бо Ірад хоча шукаць Дзіцятка, каб загубіць Яго". (Мацьв. 2, 13). Як ведаем з евангелля, бацькі ўсё рабілі, каб для малога Езуса не было крыўды. І калі Езус ужо пачынае навучаць, ён не абмінае важнай тэмы адказнасці за выхаванне патомства, а на вінаватых без сумненняў накладвае санкцыі: "І хто звядзе аднаго з малых гэтым, верluючых у Мяне, таму лепей было б, каб павесілі яму камень ад жорнаў на шыю ды кінулі б яго ў мора". (Марк, 9-42). Езус Хрыстус з'яўляецца ўзорам сапраўднага чалавека для ўсіх часоў, а святая сям'я ёсць ідэалам наследавання для ўсіх сем'яў. Усе мы знаходзімся ў выгаднейшай сітуацыі, бо можам карыстацца вопытам 2000 гадоў. Не так даўно мы скончылі святкаванне вялікага юбілею хрысціянства. Мы пазнаёміліся з прыкладамі, годнымі для наследавання як з даўняй мінуўшчыны, так і навейшай, а таксама з прычынамі ўпадку сямейнага жыцця, якія садзейнічаюць яшчэ больш няшчасцю тых, хто найбольш чакае дабрыні і любові.

Цяперашні год можна лічыць вельмі добрым, бо пасля двух тысячагоддзяў можна пачынаць занава і не паўтараць памылкі, а дасягненні яшчэ больш удасканальваць. Перш за ўсё жадаю ўсім дзецям, каб іх бацькі змабілізаваліся на ўзор святых мужа і жонкі, Язэпа і Марыі і давалі прыклад хрысціянскага жыцця. Каб у выхаванні бацькі ўмелі паказаць сваім дзецям сапраўдную іерархію каштоўнасцей. Вяршыняй гэтай іерархіі ёсць сам Бог. Ён хоча быць пазнаным, таму вывучэнне рэлігіі ёсць патрэбным як у пачатковых, так і ў старэйшых класах. Дзеці, якія выхоўваюцца, як дзеці Божыя, будуць прыстойнымі і адказнымі, а ў будучыні стануць добрымі бацькамі.

З нагоды святаў Божага нараджэння жадаю ўсім, каб Хрыстос нарадзіўся ў кожнай сям'і, і каб усё наша грамадства магло з радасцю сведчыць аб нараджэнні Госпада. Няхай Віфляемская зорка праводзіць усіх нас да Езуса Хрыста, які прыходзіць у гэты свет, каб агарнуць усіх нас, незалежна ад узросту, нацыянальнасці і веравызнання сваёй любоўю. Няхай на ўвесь наступны Год Хрыстос благаславіць усе вашы добрыя пачынанні.

Пасля вігілійнай вячэры запрашаю ўсіх на Пастэрку да касцёла а поўначы з 24 на 25 снежня, а дзетак - на калядняе прадстаўленне 25 снежня а 19 гадзіне.

*Айцец Юзэф Пятушка*

# Віншуем са святамі!



Фота IREX/ProMedia

***Турыстычнае агенцтва "Багіра"** віншуе настаўнікаў і вучняў школ Барысава. Няхай новы год падаруе вам шмат яркіх, цікавых сустрэч. Няхай будзе болей светлых дзён у вучобе і рабоце, няхай здзейсніцца ўсё у навагоднюю ноч.*

***Турыстычнае агенцтва "Агата-Тур"** віншуе з надыходзячымі калядамі і Новым годам чытачоў газеты "Томан Барысаўшчыны" і ўсіх, хто не можа ўявіць сябе без цікавых пазнавальных вандровак. Мы жадаем вам, каб у новым 2002 годзе былі рэалізаваны ўсе вашы мары.*

# З Раством Хрыстовым і Новым Годам!

## Са светлым Раством, шаноўныя барысаўцы!

"Госпадзь, убачыўшы, што гіне чалавек, якога Ён стварыў сваімі рукамі, схіліўшы нябёсы, сыходзіць на зямлю, каб ўратаваць яго," – говорыць нам Царква словамі Раждзественскага канона. Сталася вялікая падзея, адкрылася ўсяму свету таямніца Богаўцялеснення, калі Творца аддаў Сына Свайго Адзінанароджанага, дзеля ўратавання чалавецтва.

"Усякі, веруючы ў Яго, не загіне, а атрымае жыццё вечнае" (Ін. 3, 16). І таму ад гэтай ночы Раства Хрыстова і да скančэння веку не змаўкае ў сэрцах людзей ангельскае славаслоўе: "Слава ў вышніх Богу, і на зямлі мір, у чалавецах благаволенне". (Лк. 2,14). У ім гучыць поўная радасць усяленская, радасць збавіцельная.

Дарагія браты і сёстры!

Мы жывём у складаны час. Але цяпер на нашай шматпакутнай Белай Русі мы назіраем імкненні памножыць славу Боскую і бачым добры плён: дзейнічае больш за тысячу праваслаўных прыходаў і манастыроў, шмат каталіцкіх кляштараў. Усе мы імкнемся наладжваць наша духоўнае жыццё, каб стаць сугрмадзянамі ў Царстве Нябесным.

У дні святкавання Новага года і Раства Хрыстова мы ўсведамляем, што самае каштоўнае для чалавека і яго сям'і – гэта мір. І вось Віфляемскія пастыры пагулі, што "На зямлі мір...", што Бог, крыніца свету, Сам сышоў на зямлю, прыняўшы абраз чалавечы, каб навучыць людзей каханню, мірнаму існаванню.

І сёння, у гэтыя святыя дні, кожны з нас робіцца сябрам Хрыста Збавіцеля, калі захоўвае мір Хрыстоў у сваім сэрцы, у сям'і, на працоўным месцы, у словах і справах.

Калі кожны імкнецца дасягнуць духу мірнага ў сваім асабістым жыцці паводле закону Боскага, тады Гасподзь благаслаўляе мірам і добраўпарадкаваннем нашу хату і ўсё наша грамадства. Але многія людзі свядома аддаюць перавагу ганебнасці, глупству, а не ведам закону Боскага і справам веры, міласэрнасці і кахання. "Шляхі іх на галовы іх дам" (Ез. 22, 31), - папярэджвае Гасподзь. Але князь гэтага свету дыябал працягвае ўблытваць у шаленства дарослых і дзяцей, разбурае сем'і, адбірае астатні розум у няшчасных і штурхае іх у бездань граху, бо ён ненавідзіць у чалавеку вобраз і падабенства Боскае.

Але вораг атрымае ганьбу ад Віфляемскай зоркі, якая і сёння вядзе нас да Народжанага Хрыста Збавіцеля. Святло гэтай зоркі Гасподняй прыводзіць нас у Святую Апостальскую Праваслаўную Царкву, у дом Божы, і мы спадабляемся да тых усходніх мудрацоў, якія прынеслі Богенемаўлятку свае падарункі – золата, ладан і смірну.

А мы прынясём у дар Богу наша пакаянне, міласэрнасць, любоў і яднанне з Хрыстом у святой Еўхарыстыі, добрыя справы, шчырыя і ўдзячныя малітвы.

Малітоўна спадзяёмся, што неаднаразовыя клічы аб дапамозе Царкве Святой Троіцы, якая будуецца ў гонар вайскоўцаў, жыццё сваё за Айчыну аддаўшых, у 2002 годзе не застануцца без увагі спадароў кіраўнікоў прадпрыемстваў і ўласных фірм нашага горада.

Спяшайцеся ахвяраваць святой справе будаўніцтва!

Бо ўжо мала засталося часу да другога прышэсця Хрыста.

Што мы Яму скажам у апраўданне?

Ад імя Прыхадскога Савета будуемай Царквы Святой Троіцы г.Барысава жадаю ўсім усяленскай радасці, духоўнага ўзрадження, Божага благаславення на новы 2002 год.

***Настаяцель будуемай Царквы Святой Троіцы г.Барысава святар а.Міхаіл Барашка***

# Як святкавалі Каляды калісь



***Падрыхтоўка***

Рыхтавацца да свята пачыналі з першага дня посту, яшчэ за 40 дзён да наступлення Калядаў.

Каб было з чаго варыць куццю, таўклі ў ступе крупу. Далей малолі ў жорнах муку на пірагі, забівалі кабана, рабілі каўбасы. На апошнім тыдні посту рыхтавалі прадукты для куцці: рыбу, грыбы, мак, мёд і інш.

Таксама мылі і бялілі хаты, а перад самым святам пяклі і варылі розныя традыцыйныя стравы: квас, боршч з рыбай і грыбамі, аўсяны кісель, макавае малако ды абавязкова куццю – кашу з цэлых ячных ці пшанічных крупаў. Ад гэтай апошняй стравы атрымала сваю назву і ўрачыстая рытуальная вячэра, якая адбывалася тройчы на працягу амаль цэлага двухтыднёвага перыяду святкавання Калядаў.

***Куцця***

Самая ўрачыстая, першая або вялікая Куцця, ладзілася напярэдадні свята Нараджэння Хрыста. Раніцою гаспадыня гатавала куццю, закрывала хлебам і ставіла яе на покуці, куды перад гэтым прыносілі сена. Пасля заходу сонца запальвалі ў хаце агонь, бралі частку сена, клалі яго на стол і пакрывалі чыстым белым абрусам. Гападар ставіў на стол пляшку гарэлкі. Пасля браў куццю і абыходзіў з ёй тройчы хату. Затым стукаў тры разы ў акно. Жонка пытала: "Хто там стукае?" Гаспадар адказваў: "Сам Бог стукае з цёплай мокрай вясною, з гарачым небурлівым летам, з сухой і багатай восенню". Тады жонка казала: "Прасі дахаты!"

Гаспадар першы садзіўся пры стале на покуці пад абразамі, а за ім і ўся сям'я. Наліўшы гарэлкі, казаў: "Дай Божа за год дачакаць Калядаў у добрай радасці й карысці."

Пасля падавалі стравы. Усе яны былі посныя: селядцы з ільняным алеем, боршч з рыбай і грыбамі, рыба смажаная, аўсяны кісель, пампушкі з макавым малаком, бліны з мёдам. Апошняю падавалі куццю. Гаспадар, зачарпнуўшы першую лыжку, клікаў мароза: "Мароз, мароз, ідзі куццю есці".

***Варажба***

Пасля пачыналася варажба. Дзяўчаты цягнулі з-пад абруса сянінкі ды мералі: чыя даўжэйшая, у той будзе лепшы лён. Варажылі на калах ці паленнях дроў або лілі воск ці волава на ваду. Выходзілі з хаты на двор і слухалі – з якога боку брэшуць сабакі, што павінна было паказваць, адкуль з'явіцца да іх жаніх.

***Калядаванне***

На куццю або першы ці на другі дзень Раства Хрыстова ішло калядаванне. Хлопцы і дзяўчаты збіраліся ў гурт. Бралі скрыпку і бубен, а таксама калядную звязду і ішлі пад вокны хатаў спяваць песні-калядкі. Адны з гэтых песень былі духоўныя. Яны праслаўлялі Хрыста і свята яго нараджэння. Другія – свецкія, выказвалі добразычлівасць і віншаванні кожнаму гаспадару – багаты ён ці бедны. За гэта гаспадары давалі ім сала, пірагі, каўбасы. Адпусціць калядоўшчыкаў без нічога ніхто не адважваўся, бо інакш тыя маглі нагаварыць гаспадарам вострых жартаў ці заспяваць з'едлівыя песні.

***Ігрышчы***

На працягу амаль двух тыдняў усе вечары лічыліся святымі. Днём таксама не рабілі шмат якой работы: не пралі, не вілі вяровак, не плялі лапцей і г.д.

Як толькі заходзіла сонца, усе перастаалі рабіць і тое, што было дазволена. Дзяўчаты і хлопцы збіраліся на ігрышчы. Там скакалі пад скрыпку і бубен, елі, пілі, весяліліся, гулялі ў розныя гульні, апавядалі байкі і казкі, жартавалі, спявалі.

***Шчадраванне***

Перад Новым годам рыхтавалі другую куццю, на якой апрача самай галоўнай крупяной кашы гатавалася шмат розных смачных страў, у тым ліку і скаромных.

Таму гэтая Куцця называлася ў народзе багатаю або шчодраю. Моладзь ізноў хадзіла па хатах гуртамі, спяваючы гэтак званыя шчадроўныя песні з прыпевам: "Шчодры вечар". З гэтай прычыны і абрад насіў назву шчадравання. Часта вадзілі з сабой "казу" ці "мядзведзя" – пераапранутага калядоўшчыка.

***Галодная Куцця***

Напярэдадні Водахрышча была бедная або галодная Куцця. На ёй ізноў усе стравы на стале былі посныя.

Раніцою да ўсходу сонца належыла рассячы на дробныя часткі дзяркач і кінуць яго каля будынкаў, дзе больш за ўсё свінні бегалі. Таксама трэба было пасціць да зары дый пісаць крыжы на ўсіх дзвярах, вокнах і брамах, каб не ўвайшоў чорт у двор і каб сваркі не ўнёс у хату. Усе куткі ў хаце крапілі святой вадой. Рэштк і куцці аддавалі курам, а сена, што ляжала на покуці ад першае Куцці, скармлівалі па шматку ўсякай скаціне.

Вось так выглядалі Каляды ў часы нашых дзядоў-прадзедаў.

*Л.Кароль*




# Наш горад – мы яго гаспадары

*Больш за 40 год я жыву ў Барысаве. Вельмі люблю свой горад. У любую пару года ён прыгожы, дарагі майму сэрцу. Прыгажосць горада не цьмянее з гадамі, наадварот, час уносіць у воблік горада новыя рысы.*

І з усім гэтым не спалучаюцца, на першы погляд дробязі, якія надоўга пакідаюць у сэрцы горкі асадак.

У нас цудоўныя вуліцы Чапаева, М.Горкага, праспект Рэвалюцыі, 50 год БССР. І раптам тут жа бачыш брудны, зверху да нізу заляпаны аўтобус, які не ўпісваецца ў інтэр'ер такіх вуліц. У старым горадзе бачыш з густам афармленыя вітрыны магазінаў, а побач з імі латкі, цялежкі на асфальце, з якіх гандлююць прадаўцы ў неверагодна засаленых спяцоўках.

Ва ўсе часы лічылася, што барысаўцы – сама ветлівасць. І раптам – бяздушша да ветэрана вайны ля прылаўка і, што ўжо зусім невыносна, грубы вокрык: "Не чапай рукамі!" Горка чуць такое. Мабыць, мы прыцярпеліся і не заўважаем беспарадку ў грамадскіх месцах: бруднай падлогі, даўно не мытых вокан і чорных ад пылу фіранак ва ўстановах.

Людзі! Успомніце, - як Вы марылі атрымаць кватэру! Сваю, асобную, без агульнай кухні! Атрымалі, засяліліся. Азірніцеся! Колькі бруду ў пад`ездах шматпавярховых дамоў! Якія там вокны! А лесвічныя клеткі, сцены – якія толькі надпісы там нанесены. Гэта "мастацтва" маладога пакалення! А ліфты – брудна, закурана! Сорам! А ператвораныя ў склады балконы дамоў, якія выходзяць фасадамі нават на вядучыя магістралі горада. Ці бакі са смеццем і ежавымі адходамі, якім чамусьці адводзіцца ў дварах самае бачнае месца. І колькі бруду ля гэтых бакаў!

А што робіцца ў салонах гарадскіх аўтобусаў! Едуць салідныя пасажыры і плююць семячкі на падлогу, кідаюць талоны, абёрткі ад цукерак, ад марожанага. Няўжо вадзіцель павінен падмятаць салон на прыпынку?

На вуліцы 50 год БССР спілавалі 25-30 гадовыя дрэвы – яны засланялі святло (так мне патлумачылі). А колькі чыстага паветра давалі гэтыя дрэвы, ніхто не падлічыў. Замест гэтых дрэў зрабілі прыпынак для аўтамабіляў, і цяпер жыхары дамоў №3 і №13 дыхаюць выхлапнымі газамі замест чыстага паветра. Як лёгка спілаваць, знішчыць, і як цяжка пасадзіць…

Я пішу гэта не дзеля таго, каб нехта быў пакараны за памылкі. Думаецца, ці не губляем мы разам з гэтым культуру і выхаванасць, якімі заўсёды ганарыліся барысаўцы?

Пакаленні мяняюцца, а добрыя традыцыі павінны перадавацца ад бацькоў да дзяцей, як негаснучая паходня.

Кожны, хто чытае гэтыя радкі, можа падоўжыць пералік фактаў, прыведзеных вышэй. Вельмі часта мы становімся сведкамі перапалкі ў транспарце, у краме, ва ўстановах. Сёння цяжка знайсці зло, ад якога мы неслі б большы ўрон, чым ад п'янства. Нецвярозы чалавек на вуліцы, за прылаўкам, на рынку – гэта наша агульная ганьба.

У нашым горадзе – мы гаспадары. Значыць, мы ў адказе за рашэнне многіх гаспадарчых, выхаваўчых і другіх важных жыццёвых праблем. Мы –гэта калектывы прадпрыемстваў, дэпутаты, грамадскасць, міліцыя, настаўнікі, выхавацелі і проста жыхары горада.

Пабывайце на стадыёне (рэчавы рынак) у канцы рабочага дня. Вы ўбачыце, што ўсё навокал завалена газетамі, бутэлькамі, шкарлупіннем ад апельсінаў і бананаў, акуркамі і г.д. Гандляры прызвычаіліся, што за імі абавязкова прыбяруць, што заўтра стадыён зноў будзе выглядаць "з іголачкі". Такую ж карціну можна бачыць штодзень на прыпынках аўтобусаў, на стаянках таксі, дзе асабліва бесшабашна паводзяць сябе курыльшчыкі, кідаючы акуркі налева і направа, а побач стаіць урна… Цяжка зразумець, чаму пры гэтым дрэмле наша чалавечае сумленне? Яно ва ўсе часы было самым надзейным паплечнікам у барацьбе за сапраўдную культуру. Становіцца вельмі няёмка, калі бачыш, што недысцыплінаваны вадзіцель на высокай хуткасці (з шыкам) праімчаўся па лужыне, запырскаўшы пасажыраў, якія стаяць на прыпынку, што дробны пакаснік ліў ваду праз акно на прахожых, што яму падобныя пэцкаюць лесвіцы, пакідаюць непрыстойныя надпісы ў пад`ездах, псуюць бібліятэчныя кнігі, крадуць (пры выпадку) што дрэнна ляжыць. Разам з пачуццём няёмкасці ўзнікае пратэст супраць гэтых маральных уродаў.

Нельга сказаць, што не прымаецца ніякіх мераў супраць падобных з`яў. Мне ўяўляецца, што забытым сярод усіх мерапрыемстваў аказалася адно – выхаванне культуры. А гэта выхаванне трэба пачынаць з сям"і, з дзіцячага садка.

Будзем патрабавальнымі адзін да аднаго, на нас глядзяць нашы дзеці. Будзем прыкладам для дзяцей нашых. Хутка юбілей горада, давайце зробім, каб наш горад да юбілею стаў чыстым, утульным, прыгожым.

Наш горад – мы яго гаспадары!

*С.Смольская*

# Асцярожна, махляры!

Апошнім часам барысаўцы маюць нядрэнную магчымасць запасціся неабходнымі прадуктамі і таварамі, не выходзячы з дому. Ёсць цэлы шэраг фірм і прыватных асоб, якія прапануюць такую паслугу. На жаль, гэты зручны спосаб набыць тавар нясе за сабой пэўную небяспеку. Некаторыя абароцістыя людзі, улічваючы кантынгент кліентаў (а гэта часцей за ўсё старыя, нямоглыя людзі), спрабуюць беспардонна падмануць пакупніка.

Так, адна пенсіянерка, былая настаўніца, заказала па тэлефоне 4-69-20 бульбу. Бульбу прывезлі неўзабаве. Хаця бульба кабеце не спадабалася, яна адчула сябе няёмка за тое, што патурбавала людзей, і вырашыла ўсё-такі трохі набыць. Бессаромныя прадаўцы, скарыстаўшы слотнае надвор'е (узважвалі бульбу ў двары) і нездароўе бабулі, узялі грошы за 240 кг, а пакінулі бульбы 200 кг. Пры разліку дадаткова "хапнулі" яшчэ 2 тысячы.

Падманутая кабета спрабавала сама дабіцца праўды, але ўладальнік тэлефона не захацеў з ёй нават размаўляць. Цяпер гэтай справай займаецца міліцыя.

Сумна, што памяркоўнасць і сумленнасць нашых людзей выкарыстоўваецца махлярамі супраць іх інтарэсаў. Будзьце ўважлівымі, не бойцеся сказаць "Не!", калі вам нешта не спадабалася альбо здалося падазроным.

*Е.Граковіч*




# Купляйце беларускае!



Мала хто з надыходам халадоў не займаўся пакупкай абутку. У залежнасці ад даходаў і густаў пакупнік ідзе альбо ў краму, альбо на рынак.

Вопыт працы з падманутымі пакупнікамі таварыства абароны спажыўцоў "Бар'ер" (а туды штодзённа звяртаюцца 3-5 чалавек з такой праблемай) гаворыць пра тое, што няякасны абутак зараз можна набыць практычна ўсюды. Але колькасць зваротаў пасля наведвання рынкаў значна большая.

Асабліва ў гэтай справе адметны рынак старога горада. Пасля пакупкі на гэтым рынку за дапамогай звяртаецца столькі людзей, што пра парадкі на гэтым рынку можна сказаць адно –"беспредел". Пачынаецца ён, як звычайна, з "галавы" – з адміністрацыі рынка, якая вельмі неахайна вядзе ўлік асоб, якія арандуюць гандлёвыя месцы і неахвотна ідзе насустрач пакупніку, калі ўзнікае канфлікт. Якасць тавару ў многіх з гандляроў на старым рынку не вытрымлівае ніякай крытыкі.

У таварыстве "Бар'ер" зафіксаваны не адзін дзесятак зваротаў з прычыны няўдалай пакупкі тавару на старым рынку, у асноўным гэта абутак. На жаль, дапамагчы таварыства можа не кожнаму. Як правіла, людзі не маюць адрыўнога талона, а часта і не памятаюць дакладна месца, на якім яны зрабілі пакупку. Адміністрацыя ж, як ужо адзначалася, не спяшаецца дапамагчы. Вельмі цяжка ў такім выпадку даказаць факт пакупкі і прымяніць адпаведныя санкцыі.

Калі Вы робіце пакупку на рынку, асабліва на значную суму, не забывайце патрабаваць талон, дзе было б пазначана прозвішча і імя прадаўца і нумар гандлёвага месца. Гэта Ваша права. У выніку няўдалай пакупкі гэта абароніць Вас ад непрыемнасцяў. Калі прадавец дае Вам пісьмовую ці вусную гарантыю на 10-15 дзён – гэта "ліпа". Гарантыю маюць права даваць толькі фірмы, якія маюць дамову з прадпрыемствам- вытворцай, і даецца яна не менш, чым на месяц.

Калі абутак вельмі модны, але танны, чакайце непрыемнасцяў. Хутчэй за ўсё гэта грубая падробка пад вядомую фірму, і такі абутак можа праз некалькі дзён пачаць развальвацца.

А лепш за ўсё купляйце абутак беларускай вытворчасці. Калі пашукаць, то можна знайсці даволі прыстойныя мадэлі, а якасць у беларускага скуранога абутку вельмі добрая. Дарэчы, наш абутак карыстаецца вялікім попытам у Літве, дзе ён прадаецца ўдвая даражэй.

Купляйце беларускае!

*К.Сушынская*

# Мая міліцыя мяне беражэ

Гэты крылаты выраз добра помніцца нам яшчэ з савецкіх часоў. Не бяруся гаварыць пра ажыццяўленне яго ў тую пару, а вось сёння ён працуе з дакладнасцю наадварот.

І ў гэтым мела магчымасць пераканацца адміністрацыя СШ № 1, калі 23 лістапада патэлефанавала ў міліцыю старога горада з просьбай дапамагчы выставіць са школы хулігана. Ахоўнікі парадку так і не з'явіліся.

Такім чынам, да месца іншая мудрасць:

- Не ўсе праўда, што людзі кажуць.

*М.Пучыла*



# Жыве такі чалавек

*Якубенка Уладзімір Пятровіч працуе кіраўніком судамадэльнага гуртка гарадскога цэнтра тэхнічнай творчасці школьнікаў з 1991 года. У гэтым годзе ён адзначыў свой 65-гадовы юбілей.*

Нарадзіўся ў Барысаве, вучыўся ў школе, займаўся судамадэліраваннем, што і прадвызначыла яго лёс. Ён з маленства марыў пра мора, пра ваенныя караблі, пра далёкія марскія вандроўкі. І мара яго збылася.

У 1955 годзе Уладзіміра Пятровіча прызвалі на ваенную службу на Чырвонасцяжны Паўночны флот. Пашанцавала плаваць на сапраўдных баявых караблях: крэйсеры «Ушакоў», супрацьлодачных караблях "Севастопаль", "Несакрушальны", "Стройны". Выконваючы важныя ўрадавыя заданні, пабываў у Швецыі, Нарвегіі, Алжыры, Марока, Нігерыі, Анголе, на Кубе. Двойчы прымаў удзел у выпрабаванні ядзернай зброі на Новай Зямлі.

Бездакорная служба нашага земляка годна адзначана ордэнам Чырвонай Зоркі, 12 медалямі.

У 1989 годзе Уладзімір Пятровіч быў звольнены ў запас. Астаўся жыць у Мурманску, аднак родная зямля паклікала дамоў. Ён вярнуўся ў Барысаў і вось ужо 12 гадоў працуе з навучэнцамі. Працуе добрасумленна і паспяхова. Яго гуртко-ўцы 4 разы станавіліся чэмпіёнамі Менскай вобласці па судамадэльнаму спорту. У мінулым годзе заваявалі пераходны кубак.

З асаблівай стараннасцю і плёнам працуюць пад кіраўніцтвам Уладзіміра Пятровіча браты Заквіцэвічы Яўген і Мікалай, Давыдзюк Сяргей, Маслюк Іван, Кузьменка Сяргей, Мордас Дзмітрый, Доўгаль Андрэй і многія іншыя.

Гэтыя і другія гурткоўцы стварылі шэраг выдатных мадэляў: атамнай падводнай лодкі "Тайфун", "Малога паляўнічага 065", кананерскай лодкі, англійскага тарпеднага кацера, яхт розных класаў і шмат другіх. Увесь калектыў гарадскога цэнтра тэхнічнай творчасці навучэнцаў віншуе Якубенку Уладзіміра Пятровіча з юбілеем і жадае яму моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця і новых творчых поспехаў у рабоце з дзецьмі.

***Калектыў гарадскога цэнтра тэхнічнай творчасці***

*Рэдакцыя газеты далучаецца да віншаванняў.*



*Анатоль Аляксеевіч Пашывалкін з вучнямі*



*Навучэнцы Салавата Якубавіча Арасламава на занятках*

# Віншуем пераможцаў !

Мінскім абласным цэнтрам тэхнічнай творчасці і натуралістычнай работы падведзены вынікі конкурсу на лепшую метадычную распрацоўку.

Усяго на конкурсе было прастаўлена больш за сорок распрацовак па розных накірунках работы ў дзіцячай тэхнічнай творчасці.

Актыўны ўдзел у конкурсе прынялі кіраўнікі гурткоў Барысаўскага гарадскога цэнтра тэхнічнай творчасці навучэнцаў Арасламаў Салават Якубавіч і Пашывалкін Анатоль Аляксеевіч. Выступілі яны вельмі паспяхова: Арасламаў С.Я. заняў першае месца, а Пашывалкін А.А. – другое.

Арасламаў С.Я. прадставіў метадычную распрацоўку на тэму "Замацаванне прыёму на слых радыётэлефоннай азбукі", якую на практыцы выкарыстоўвае ў гуртку на занятках з вучнямі. Ён падрыхтаваў многіх гурткоўцаў: Драніцу Сашу і Юру, Манкевіч Таццяну і Марыну, Чарняўскую Юлю, Мухіна Сашу, Беразнеўіча Віцю, Шостака Сашу і другіх, каторыя паспяхова выступалі на абласных, рэспубліканскіх спаборніцтвах па радыёспорту. Так, у гэтым годзе на спаборніцтвах па радыётэлеграфіі на хуткасць Тушынскі Юра ў асабістым заліку заняў 1 месца і выканаў нарматыў кандыдата ў майстры спорту.

Пашывалкін А.А., кіраўнік авіямадэльнага гуртка, прадставіў распрацоўку "Паветраны вінт самалёта, правілы яго разліку і вырабу". Яго поспех невыпадковы: на рэспубліканскім конкурсе ён заняў 3 месца. Працоўны па сваіх распрацоўках, Пашывалкін А.А. стварыў сваю школу авіямадэлістаў і дасягнуў значных поспехаў. Яго выхаванцы чатыры разы былі чэмпіёнамі Менскай вобласці. У гэтым годзе



Ідзе выпрабаванне мадэлі

за зборную каманду авіямадэлістаў Менскай вобласці выступілі 10 гурткоўцаў нашага цэнтра. Усе яны дабіліся высокіх вынікаў: Бяляеў Яўген стаў чэмпіёнам Рэспублікі Беларусь, Рэнейскі Уладзімір і Міронаў Барыс сталі сярэбранымі прызёрамі, Паграбенка Антон, Паддубскі Віктар, Фядосаў Леанід занялі чацвёртае, а Ігнатовіч Дзяніс і Акімаў Яўген – пятае месца.

Віншуем усіх і жадаем наступных поспехаў гурткоўцам цэнтра тэхнічнай творчасці і іх кіраўнікам!

***В.Асіпенка, дырэктар Барысаўскага гарадскога цэнтра тэхнічнай творчасці***

# Восень жыцця мусіць быць цёплай

*Пакуль трымаецца хоць і няўпэўненае восеньскае цяпло, не хочацца верыць, што прыдуць занудлівыя дні з пранізлівымі вятрамі, цёмнымі вечарамі, будзе імжэць халодны дождж, ледзяныя крупы будуць секчы твар, а вуліцы зробяцца слізкімі, няўтульнымі. Цяжэй за ўсіх жывецца ў такія слотныя, пахмурныя дні старым, нямоглым людзям, асабліва тым, у каго няма побач родных. Няма каму выбегчы халоднай раніцай за паленцам дроў, запаліць у печы, зварыць супу ці згатаваць гарбаты...*

Немалую частку клопатаў аб адзінокіх, састарэлых барысаўцах бярэ на сябе Барысаўскі камітэт таварыства Чырвонага Крыжа, які месціцца ў сціплым дамку на перакрыжаванні вуліц Дзяржынскага і Нармандыі-Нёман. Дапамагае камітэт таксама інвалідам, дзецям-сіротам, шматдзетным сем`ям, іншым людзям, якія жывуць у нястачы.

Пад пастаяннай апекай службы міласэрнасці камітэта ў дадзены момант знаходзяцца 169 састарэлых людзей. Восем сясцёр міласэрнасці выязджаюць штодзённа ў розныя канцы горада, каб прывезці старым лекі, прадукты, зрабіць укол ці іншую медыцынскую працэдуру, прыбраць у кватэры і проста, між справамі, пагаварыць з чалавекам. Дарэчы, дабіраюцца сёстры да сваіх падапечных на грамадскім транспарце, за свой кошт купляюць праязныя білеты, ды й зарплата ў іх не раскошная – каля 45 тысяч рублёў. Інакш, як самаахвярнаю, іх працу не назавеш.

Чырвоны Крыж – установа грамадская, якая жыве за кошт ахвяраванняў. Далёка не кожная фірма ці прадпрыемства адклікаецца на просьбу аб дабрачыннай дапамозе. Старшыня камітэта Мікалай Мікалаевіч Кумейша прыводзіць такія лічбы: у гэтым годзе з 109 прыватных фірм ахвяравалі пэўныя сродкі 19, а з 45 прадпрыемстваў – 9. Ніколі не адмаўляюць у дапамозе такія прадпрыемствы, як завод медпрэпаратаў, прадпрыемствы "Фрэбор", "Лесахімік", рынак "Спатканне", фірма "Веста". Уважліва ставіцца да патрэб камітэта гарвыканкам.

Старшыня камітэта расказаў пра мару свайго калектыва арганізаваць стацыянар для нямоглых старых, якім больш патрэбна не медыцынская дапамога, а прасты дагляд. У бальніцах такіх старых трымаюць неахвотна, а ў Дом састарэлых патрапіць не так лёгка, там чарга 4-5 месяцаў, ды й далёка не кожны туды згодны адправіцца. Нават самым слабым старым хочацца быць бліжэй да свайго дому і мець надзею туды вярнуцца.

Ажыццяўленне праекта каштуе як мінімум 10 тысяч даляраў і пакуль што камітэту не па сілах. Робяць пакрысе тое, што могуць. Напрыклад, выкарыстаўшы стаўку старэйшай медсястры, узялі на працу доктара-пенсіянера. Цяпер старым неабавязкова з кожнай балячкай сядзець у доўгай чарзе ў паліклініцы. Свой доктар дапаможа альбо параіць, да якога спецыяліста трэба з`вярнуцца. Паслаўшы адну з сясцёр вучыцца на масажыстку, арганізавалі масажны кабінет, які не мае нястачы ў пацыентах. Да Восьмага сакавіка, Дня перамогі, Дня пажылых людзей камітэт рыхтуе падарункі старым. А на складзе камітэта можна ўзяць неабходнае адзенне, абутак. Карыстаюцца такой магчымасцю не толькі старыя, але й мнагадзетныя сем`і, сіроты, маламаёмныя людзі.

У абавязкі камітэта ўваходзіць атрыманне і размеркаванне дабрачынных ахвяраванняў ад замежных таварыстваў Чырвонага Крыжа. У гэтым годзе Барысаў наведала дэлегацыя з нямецкага горада Нойшроліца, якая прывезла медыцынскае абсталяванне, якое было перадана ў раддом і гарадскую бальніцу. Дапамагае камітэт рэабілітацыйнаму цэнтру, дапаможным школам і іншым установам горада.

Камітэт з удзячнасцю прымае паношанае адзенне і абутак ад насельніцтва. Той, у каго ёсць такія рэчы, можа аддаць іх на карысць людзям, якія церпяць нястачы,



звярнуўшыся па адрасе: вул. Дзяржынскага, 57, тэл. 22672, у любы рабочы дзень. Рэчы павінны быць чыстымі і не парванымі.

На пытанне, чым ім дапамагае Чырвоны Крыж, адна бабулька адказала так: "Мы там спяваем і нават танчым, хто можа." А ўжо потым успомніла пра лекі і іншую дапамогу. Сапраўды, "не хлебам адзіным" жыве чалавек у любым узросце. І магчымасць сабрацца разам пад дахам камітэта старыя цэняць не менш, чым матэрыяльную і медыцынскую дапамогу. Клуб пажылых людзей штомесячна збірае на свае сустрэчы за кубкам гарбаты людзей, якім ёсць што ўспомніць, ёсць пра што пагаварыць. Часам нават жывучы сярод блізкіх людзей, стары чалавек пачувае сябе адзінокім. У дзяцей і ўнукаў свае клопаты і праблемы, і не хапае часу пагаварыць, зразумець старую бабулю ці дзядулю. У клубе пажылы чалавек заўсёды знойдзе суразмоўніка. Год таму тут справілі вяселле. Пабраліся шлюбам двое дзевяностагадовых людзей. Зараз на сустрэчы ў клуб яны прыходзяць разам.

***К.Сушынская***




# Як пазбавіцца ад гарадскіх сметнікаў

На працягу мінулага дзесяцігоддзя па вуліцы 8 сакавіка між гаражным кааператывам і гарадскімі могілкамі з'яўлялася, знікала і зноў адраджалася стыхійная звалка цвёрдых бытавых адыходаў ад домаўладанняў гэтай вуліцы. З дапамогаю жыллёва – камунальнай гаспадаркі звалка прыбіралася і вывозілася на гарадскі палігон, але праз два – тры дні, як грыбы пасля дажджу, зноў вырасталі кучы адыходаў, часта вуліца ператўаралася ў памыйную яму.

Але безвыходных становішчаў не бывае? На сцяне аднаго з гаражоў быў намаляваны арыгінальны лозунг. І, як у застойныя часы, ён падзейнічаў на свядомасць домаўладальнікаў гэтай часткі вуліцы. На гэтым месцы з красавіка па сённяшні час узорны парадак і чысціня.

*А.Сакалоўскі*

# Снежань

Снежань - першы месяц зімы. У ім паяўляецца ўстойлівае снегавое покрыва, адсюль назва. Найбольшая вышыня Сонца над гарызонтам у сярэдзіне снежня апоўдні 12,7°, яно праходзіць праз пункт зімовага сонцастаяння. Сярэдняя тэмпература паветра - -2 - -6°С, абсалютны максімум яе назіраўся ў Берасці і Высокім (14°С), мінімум -36° (в.Лужасна, паблізу Віцебска). Адносная вільготнасць паветра 88-91%. Вільготных дзён 21 – 27, ясных у сярэднім 1 – 2, пахмурных 20 – 23. Працягласць сонечнага ззяння найменшая – 21 – 33 гадзіны (10 – 15% ад магчымай). Снегавое покрыва дасягае 6-10 см, пры адлізе яно можа поўнасцю сыходзіць. Глебы прамярзаюць на 20 – 30 см. Укрываюцца лёдам рэкі і азёры. Інтэнсіўнасць ападкаў малая, сярэдняя іх колькасць па тэрыторыі рэспублікі 30 – 45 мм, але ў снежныя зімы можа выпасці і значна болей: Гомель - 130 мм у 1930 г. У маласнежныя ўсяго 2 – 6 мм.

Снежань - цяжкі перыяд для жывёльнага свету. Усе заняты пошукам корму – ён адзінае ратаванне ад марозу. Каля чалавечага жылля "круцяцца" птушкі. Палюе на мышэй і зайцоў ліса, ваўкі нападаюць нават на свойскую жывёлу. У глыбокіх месцах на дне ляжыць паўсонная рыба, а ў ментуза ў канцы снежня пачынаецца нераст.

**Снежань год канчае, зіму пачынае.**

**У снежні мароз і снег вышэй хаты - год будзе багаты;**

**У снежні адкрыта вуха - летам будзе горача і суха.**

*М.Пучыла*

# Рапуха чаротная



Убранне чаротнай рапухі даволі сціплае: зверху яна шэравата-аліўкавая, знізу бруднавата-белая з меркімі або буйнымі плямамі. Але яе спінка ўпрыгожана вузкай светлай палоскай, па якой яе лёгка можна адрозніць ад сваіх сясцёр: рапухі шэрай і зялёнай. Акрамя таго гэтая рэдкая рапуха не скача, як іншыя яе сародзічы, а спрытна і хутка... бегае.

Чаротная рапуха любіць жыць у месцах, дзе лясы з лёгкай пясчанай глебай, звычайна хвойнікі, мяжуюць з нізкімі забалочанымі ўчасткамі або вадаёмамі. Удзень яна хаваецца пад каменнямі, між карэнняў дрэў ці ў адмыслова выкапанай у пяску норцы. Актыўнае жыццё пачынаецца ў змроку, калі яна выходзіць паляваць за насякомымі.

Шлюбны перыяд пачынаецца ў траўні і цягнецца да ліпеня. Самцы ў шлюбны перыяд збіраюцца (пераважна з 22 гадзінаў па 2 гадзіны ночы) ў невялікія групы і распачынаюць канцэрт, выконваючы рыпучымі галасамі "Эррр-эррр-эррр" альбо "ра-ра-ра".

Самкі рапухі - маўклівыя істоты. Адна самка кладзе 3-4 тысячы ікрынак у выглядзе шнуроў даўжынёю да 1,8 м, дзе ікрынкі месяцца папарна. Апалонікі гадуюцца ў вадаёме 42-50 дзён, а потым выходзяць на сушу. Памеры іх у гэты час 10-15 мм. Маладых рапух можна пабачыць у ліпені-жніўні і ўдзень. З верасня па травень рапуха спіць у наземнай схованцы або зарыўшыся ў пясчаную норку.

Чаротнай рапухай, як і другімі земнаводнымі, любяць паласавацца вужы, буслы, капі, тхары, барсукі.

Хаця маюцца звесткі, што чаротная рапуха з"яўляецца адным з найбольш экалагічна пластычных відаў, г. зн. лёгка прыстасоўваецца да змены ўмоў, сустракаецца яна даволі рэдка. У Беларусі яна ў больш-менш заўважнай колькасці жыве на дзюнах і ўскрайках хвойнікаў ля Вілейскага вадасховішча, а на ўсход ад лініі Лепель – Бабруйск зусім не сустракаецца. Такім чынам, тэрыторыя Барысаўшчыны ўваходзіць ва ўсходнюю мяжу распаўсюджання чаротнай рапухі.

У невялікай колькасці яна жыве на Украіне, краінах Прыбалтыкі і ў шэрагу заходнееўрапейскіх краін. Рапуха чаротная, як і іншыя віды рапух і жаб, з'яўляецца істотай, якая ніяк не шкодзіць людзям і прыносіць толькі карысць. Адвечны прыгажун беларускіх абшараў бусел не будзе жыць там, дзе няма яго любімай ежы: жабак і рапух. Чалавек жа часам ставіцца да гэтых жывёл не толькі непрыхільна, але і проста бязлітасна. Часта яны становяцца забаўкай у руках усюдыісных хлапчукоў. Ды і больш сталыя дзецюкі нярэдка любяць паздзекавацца з гэтых безабаронных істот. Не спрыяе распаўсюджанню рапух і жаб бурная гаспадарчая дзейнасць чалавека і яе наступствы: забруджванне вадаёмаў, знішчэнне лясоў, скарачэнне плошчаў лугоў і балот.

Чаротная рапуха добра прывыкаецца ў няволі, ахвотна бярэ ежу з рук чалавека. За падатлівы характар і своеасаблівыя паводзіны яе любяць трымаць у тэрарыўмах.

*Е.Гракові́ч*

# Жадаеце набываць якаснае – набывайце тавары, якія аформлены па-беларуску

*Яшчэ нядаўна ішлі спрэчкі, чым трэба займацца раней - адраджэннем мовы або эканомікі. Шмат хто сцвярджае, што спачатку трэба "накарміць" людзей, а потым брацца за беларускасць.*

Дазвольце з гэтым катэгарычна не пагадзіцца. Па-першае, мова – гэта не самамэта. Яна з'яўляецца паказчыкам культуры асобнага чалавека і грамадства наогул. Па-другое, эканамічнае адраджэнне немагчыма пры нізкім культурным узроўні грамадства.

Справядлівасць гэтых сцвярджэнняў проста праілюстраваць на вельмі наглядным прыкладзе, з якім кожны з барысаўцаў штодзённа сустракаецца ў крамах. Ці звярталі вы ўвагу на моўнае афармленне тавараў, што набываеце, і іх якасць? Напрыклад малочных вырабаў. Якасць тых з іх, што вырабляюць у нашым горадзе, сумнавядома. Афармляюцца яны выключна па-руску. Параўнуйце іх з прадукцыяй Клецкага масларобчага камбіната, што, дзякуй богу, увесь час ёсць у продажы. Клецкія тавары аформлены па-беларуску. Іх афармленне цешыць вока, разнастайнасць і якасць непараўнальная з тутэйшымі вырабамі.

Такі кантраст паміж якасцю і разнастайнасцю барысаўскіх і клецкіх малочных вырабаў невыпадковы. Там, дзе да мовы (а значыць, і культуры наогул і культуры вытворчасці ўпрыватнасці) падыходзяць па прынцыпу "як прасцей", і вынікі незайдросныя. Там дзе да мовы, а значыць, і да культуры падыходзяць больш разважліва, вынікі і ў бізнесе будуць больш паспяховыя.

Падобных прыкладаў можна прывесці шмат. Таму пры набыцці тавараў звяртайце ўвагу на іх моўнае афармленне. Калі жадаеце набываць якаснае, набывайце тое, што аформлена па-беларуску. А эканамічнае адраджэнне Беларусі і павышэнне дабрабыту ўе жыхароў чакаць не варта, пакуль маюцца такія адносіны да беларускай мовы і культуры, як і культур іншых тутэйшых насельнікаў.

*В.Стэфановіч*

# Дзень спецыяліста

У цэнтральнай гарадской бібліятэцы 29 лістапада адбыўся чарговы "Дзень спецыяліста". На гэты раз ён сабраў выкладчыкаў сусветнай мастацкай культуры. Бібліятэкарка залі мастацтваў Т.Кірылава пазнаёміла ўдзельнікаў з цікавымі новымі выданнямі: энцыклапедыя "Майстэрства баціка", "Гісторыя помнікаў архітэктуры (ад пірамід да хмарачосаў)", "Мода. Век мадэльераў (1900-1999 г.г.), "Псіхалогія мастацкай творчасці" і інш. Прысутныя азнаёміліся з кніжнай выставай, прысвечанай 120-годдзю з дня нараджэння П.Пікасо і з працамі маладых мастакоў горада, якія дэманструюцца ў залі выстаў бібліятэкі.

Супрацоўніца бібліятэкі М.Феактыстава прадставіла сваю аўтарскую праграму "Экалогія ў мастацтве". Адбыўся творчы дыялог з супрацоўнікамі часопіса "Асновы мастацтва" Л.Саламаха і В.Баленда. Яны расказалі пра новыя публікацыі і тэмы, над каторымі працуе калектыў рэдакцыі, і запрасілі выкладчыкаў да супрацоўніцтва.

*Н.Шабека, метадыстка ЦГБ*

# Цэнтр краязнаўчай інфармацыі

*Кола інтарэсаў краязнаўцаў – мінулае і сучаснасць нейкага краю, пэўнай мясцовасці: ад вёскі, малога горада, нават вуліцы, фабрыкі, сядзібы да буйнога рэгіёна ва ўсёй разнастайнасці тэм.*

Рашэннем гарвыканкама Барысаўская цэнтральная гарадская бібліятэка з'яўляецца цэнтрам краязнаўчай інфармацыі. Бібліятэкары залі беларусістыкі прыкладаюць намаганні, каб сабраць як мага болей звестак аб нашым горадзе, яго гісторыі, важных падзеях,вядомых тутэйшых людзях. Выданні XIX – пачатку XX стагоддзя атрыманы праз ксеракапіраванне фондаў Нацыянальнай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь. Зараз чытачы нашай бібліятэкі маюць магчымасць пазнаёміцца з "Журналом третьего черезвычайного Борисовского уездного земского собрания". Типография Шеймана, 1911 г., "Борисов и Борисовский уезд в Отечественную войну 1812 года". Сост. Краснянский, Гродно, 1914 г. і інш. Працягваецца праца па напаўненні фонда (газетна – часопісныя выразкі) па ўсіх накірунках развіцця нашага горада. Зараз бібліятэка рыхтуецца да стварэння электроннай фактаграфічнай базы даных "Памяць Барысаўшчыны".

Дзеля пашырэння ведаў у галіне краязнаўства 3 лістапада для супрацоўнікаў бібліятэкі быў арганізаваны "Дзень спецыяліста" на тэму "Сучаснае краязнаўства: якім яму быць?".

На імпрэзе выступілі Р.Казючыц, галоўная бібліятэкарка аддзела беларускай літаратуры Нацыянальнай бібліятэкі РБ, супрацоўніца Барысаўскага краязнаўчага музея Т.Кандзідава, супрацоўніца залі беларусістыкі ЦГБ Л.Цixановіч. Р.Казючыц расказала аб асноўных накірунках, задачах і праблемах сучаснага краязнаўства. Т.Кандзідава пазнаёміла з работай музея і прадставіла прыватныя калекцыі: працы барысаўскіх фатографаў XIX – пачатку XX стагоддзя партрэтнага жанру і візітоўкі. Бібліятэкары адказвалі на пытанні віктарыны, якія звязаны з гісторыяй горада, і прынялі ўдзел у экскурсіі па адметных мясцінах роднага горада.

*Н.Шабека, метадыст ЦБК*

# Геалагічная гісторыя Барысаўшчыны

(Працяг, пачатак у № 32 за 2001 г.)

Палеазойская эра (у перакладзе з грэчаскага – эра старажытнага жыцця), працягвалася ў інтэрвале 570 – 230 млн. гадоў таму. На тэрыторыі Беларусі ў гэты час было адносна спакойна, тут не адбывалася працэсаў гораўтварэння. Назіраліся толькі павольныя падняцці і апусканні зямной кары, якія суправаджаліся адпаведна адступленнем або наступленнем мора на сушу.

Калі тэрыторыя паніжаецца і заліваецца морам ці на ёй утвараецца россып мелкаводных лагун, азёр і балот, тады пачынаецца працэс адкладання рознага матэрыялу, з якога фарміруюцца асадкавыя пароды. Вывучаючы іх, мы можам уявіць, што адбывалася на нашай зямлі мільёны год таму назад.

Палеазойскія адклады даволі распаўсюджаны на тэрыторыі Беларусі. Гэта азначае, што ў палеазойскую эру мора неаднаразова залівала яе паверхню. Фарміраванне палеазойскіх адкладаў ішло ў некалькі іншых умовах, чым у археі і пратэразоі.У гэтую эру на Зямлі ўжо панавала жыццё. На пачатку палеозоя з'явіліся архаічныя каралы, малюскі, марскія лілеі, членістаногія, першыя наземныя расліны (псілафіты). Напрыканцы эры на Зямлі ўжо буяюць лясы гіганцкіх папаратнікаў, хвашчоў і дзеразовых, у морах плаваюць панцырныя і кісцяпёрыя рыбы, па сушы бадзяюцца першыя яшчары.

Такая экспансія жыцця прыводзіць да змянення характару адкладзеных у тыя часы парод: у марскіх басейнах збіраюцца не толькі мінеральныя адклады – пяскі, гліны, але і магутныя асадкі, утвораныя ў выніку хімічных і біялагічных працэсаў. Яны ўтрымліваюць у сабе такія карысныя выкапні, як каменная і калійная солі, нафта і газ, гаручыя сланцы, каменны вугаль, баксіты.

На Барысаўшчыне адклады палеазою залягаюць на глыбіні 90-250 метраў і маюць магутнасць ад 90 да 140 м. Яны складзены слаямі блакітна-шэрых мергеляў, даламітаў, шэрых пясчанікаў, алеўралітаў.Між імі сустракаюцца праслоі вапнякоў.




Кайназойскія (антрапагенавыя) марэнныя, водналедавіковыя адклады

Палеазойскія (дэвонскія) пясчанікі, алеўраліты, даламіты, мергелі, вапнякі

Верхнепратэразойскія пясчанікі і алеўраліты

Архейска - пратэразайскі крышталічны падмурак

Больш дакладней гэтыя пароды вылучаюцца, як адклады дэвонскага перыяду, якія прыходзяцца на сярэдзіну палеазойскай эры. Гэта азначае, што прыблізна 390-370 млн.гадоў таму на Барысаўшчыне пляскаліся марскія хвалі. Мора тады наступіла на ўсю Усходнюю Беларусь.

Склад гэтых парод гаворыць аб тым, што адкладанне асадкаў ішло ва ўмовах салёнага марскога басейна (прысутнасць даламітаў і мергеляў), дзе было месца і актыўнаму жыццю, бо фарміраванне слаёў вапняку ідзе пераважна за кошт рэштак марскіх жывёл, якія маюць вапняковы шкілет. На прыбярэжных водмелях ля дэльтаў рэк, якія неслі пясок і гліну, адкладаліся пясчанікі і алеўраліты. Частае чаргаванне слаёў гаворыць нам аб тым, што геалагічныя ўмовы пастаянна, хоць і не шпарка па чалавечых мерках, змяняліся.

У дэвонскіх вапняках знайшлі даволі многа рэштак шкілетаў панцырных рыб, якія плавалі ў старажытным моры. Асноўная ж маса вапнякоў складаецца са шкілетаў малюскаў (брахіапод, аманітаў), марскіх лілей, зорак і іншых дробных марскіх арганізмаў.

Пасля дэвону тэрыторыя Барысаўшчыны прыўзнялася над узроўнем мора, і прайшло многа мільёнаў гадоў, якія не пакінулі слядоў у яе нетрах. Наступнае паніжэнне адбылося ў кайназойскай эры, калі па Зямлі ўжо хадзілі першабытныя людзі.

*(Працяг будзе)*
*Т.Шміт*



*Аманіты – самыя распаўсюджаныя малюскі дэвона (злева)*

*Марскія лілеі, знойдзены ў палеазойскіх вапняках (знізу)*



*Дэвонская панцырная рыба (знізу)*

**Асноўныя этапы развіцця зямлі**

| Эра | Пачатак (млн. гадоў таму назад) | Арганічны свет |
|---|---|---|
| Кайназойская (працягласць 67 млн. гадоў) | 67 | Млекакормячыя Пакрытанасенныя |
| Мезазойская (працягласць 163 млн. гадоў) | 230 | Паўзуны Голанасенныя |
| Палеазойская (працягласць 340 млн. гадоў) | 570 | Земнаводныя Архаічныя хвашчовыя, папаратнікі, дзеразовыя Рыбы Псілафіты (архаічныя расліны) |
| Пратэразойская | 2600 | Беспазваночныя Водарасці |
| Архейская | больш за 3500 | Бактэрыі |

# Зіма

*Зіма - сезон паміж восенню і вясной, перыяд года ў Паўночным паўшар'і ад зімовага сонцастаяння да вясенняга раўнадзенства 21 сакавіка (у Паўднёвым паўшар'і цяпер лета). Гэта найбольш халодны час.*

На Беларусі пачаткам зімы як кліматычнага сезона лічаць дату ўстойлівага пераходу сярэднесутачнай тэмпературы паветра праз 0°C у бок паніжэння, што супадае з перыядам першага ападання ігліцы ў лістоўніцы еўрапейскай (2-я палова лістапада). За канец прыняты пераход тэмпературы паветра праз 0°C у бок павышэння, ён супадае з пачаткам руху сокаў у бярозы бародаўчатай. Зіма цягнецца ў сярэднім 105 дзён на паўднёвым захадзе і 145 на паўночным усходзе. У гэтым жа напрамку ўзрастае і ўстойлівасць зімы, што праяўляецца ў характары залягання і магутнасці снегавога покрыву, у тэмпературах паветра. Цыклоны з Атлантычнага акіяна прыносяць марское паветра, а яно выклікае частыя адлігі, сырое пахмурнае надвор'е. У снежні – лютым у Менску ў сярэднім кожны трэці дзень з адлігай, можа поўнасцю сыходзіць снег. У асобныя гады зімы бываюць марозныя, абсалютны мінімум тэмпературы на Беларусі дасягае -44°C. Снег звычайна трымаецца на працягу чатырох месяцаў на поўначы, каля двух - на поўдні. Зрэдку назіраюцца мнагаснежныя зімы з вышынёй снегавога покрыву 50-70см і больш, але ў апошні час здараюцца зімы маласнежныя, як мяркуюць, у выніку атмасферных парушэнняў чалавечай дзейнасцю. Прамярзанне глебы неглыбокае, хаця ў суровыя зімы яно можа дасягнуць глыбіні да 1,5м.

Для зімы на тэрыторыі Беларусі характэрна пахмурнае надвор'е: 15-20 дзён кожны зімовы месяц, туманы амаль кожны трэці дзень, мяцеліцы, у сярэднім па 3-5 дзён на месяц, частая змена марозных і адлігавых перыядаў, бываюць галалёд, шэрань і інш.

**Як зіма без марозу, так вясна без шкоды не абыдуцца.**

**Калі не будзе зімою бела, то не будзе ўлетку зелена.**

**Зіма цёплая - сіроцкая.**

**Зіма ліха, а без зімы яшчэ горш.**

**Зіма, як казна, свае возьме.**

**Зіма на лета робіць, а лета ж зіму.**

**Зіма ўцякае цёмнымі начамі.**

*Падрыхтаваў М.Пучыла*

# Зямля на скарбы багата

*Паўтары гады таму на Барысаўшчыне адбылася адметная падзея, якая засталася незаўважнай. Падчас археалагічных раскопкаў на Бярэзіне каля Брылёў быў знойдзены адзін з найбольш каштоўных тутэйшых скарбаў сярод усіх, што былі знойдзены на Барысаўшчыне за ўвесь час.*

Скарб утрымлівае больш за 200 куфічных даржмаў арабскага Халіфата III – X стагоддзяў і скандынаўскі меч з рукаяткай, інкруставанай срэбрам.

На першы погляд здаецца, што суседства мяча варагаў, якія трымалі ў страху паўночную Еўропу, і манет вялікай арабскай дзяржавы, якая мела межы ад берагоў Атлантыкі да Сярэдняй Азіі, цяжка паддаецца тлумачэнню. Турызм у тыя часы быў яўна не ў пашане. Ды і шляхі ў той час амаль выключна праходзілі па рэках. Але гандаль - гэта іншая справа. Для яго не было ніякіх межаў. Аб гэтым гавораць скарбы і знаходкі манет і рэчаў рымскай эпохі I – III стагоддзяў на тэрыторыі Беларусі, у тым ліку і на Барысаўшчыне. Тутэйшыя жыхары пастаўлялі на міжнародныя рынкі футра, мёд, воск і т. п. У замен на поўдні і паўднёвым усходзе набывалася зброя, тканіна і неабходнае для гандлю арабскае срэбра.

Зараз скарб захоўваецца ў Менску.

*І.Іваноў*



*Манеты са скарба, якія быў знойдзены летась на Барысаўшчыне*





*Рэшткі абарончага рова гарадзішча на тэрыторыі парка (зверху)*

*Уезд у стары парк (злева)*

*Пахаванне ксяндза Кухарскага - адзінае, што нагадвае аб былой каталіцкай абшчыне ў Крычыне (знізу)*



# Татарскае пасяленне - Крычына

*Сёння Крычына – адна са шматлікіх вёсак Барысаўшчыны, якая нічым не вылучаецца сярод іншых. Зусім інакш было ў сярэднявеччы. Да сярэдзіны XVII стагоддзя гэта было адно з найбольш значных і адметных тутэйшых пасяленняў.*

Развіццю Крычына ў першай палове другога тысячагоддзя спрыяла тое, што яно знаходзілася каля пераправы праз Бярэзіну на шляху з Менска на Лукомль. Тут жа ў той час праходзіў і шлях з Менска на Полацак. Найбольш старое пісьмовае сведчанне аб Крычыне можа быць датавана каля 1510 года. Аднак яго гісторыя больш старэйшая. Сведчаннем гэтаму можа быць гарадзішча, якое знаходзіцца каля Бярэзіны і мае ўзрост каля двух тысяч год.



*У Крычынскім парку да нашага часу захаваліся экзатычныя дрэвы. Адно з іх - коркавы дуб (зверху)*

Сярод іншых тутэйшых пасяленняў Крычына найперш вылучалася тым, што тут з даўніх часоў сяліліся татары. Пачатак гэтаму, верагодна, быў пакладзены пры Вітаўце ў XVI стагоддзі. Крычына, практычна, з'яўлялася цэнтрам татараў на Барысаўшчыне. Нямала захавалася пісьмовых сведчанняў аб іх XVI – пачатку XVII стагоддзя. Самае старое з іх датуецца каля 1510 года. Найбольшая частка дакументаў датычыцца 80-х – 90-х гадоў XVI стагоддзя. На той час у Крычыне мелі зямлю і жылі харужы татарскі князь Мартуз Аліскевіч з жонкай Мамцэкавай Габілевіч, князі Асал Усейнавіч Айдарэўш, Абрагім Асанавіч (сын Мартуза Аліскевіча), Асан Казіміравіч з жонкай княжной Багданай Пятроўнай. Узгадваюцца ў тыя часы і тамтэйшыя татары Шабатал Абрагімавіч, Шабанаўна Мішцэкава Габылевіч, Нусця Еніхаўна Шабанаўна і іншыя. Да зыходу з жыцця ў 1642 годзе меў зямлю ў Крычыне харужы татарскі князь Самуел Абрагімавіч.







Аднак Крычына ў тыя часы не з'яўлялася выключна татарскім пасяленнем. Так, у 1582 годзе тут жыў баярын Навіцкі, меў двор пан Ёсіф Тышкевіч. У 1642 годзе тут меў зямлю падкаморый аршанскі Адам Саковіч. На мяжы XVI – XVII стагоддзяў Крычына ўзгадваецца як сяло. Аднак пасля вайны сярэдзіны XVII стагоддзя яго статус паменшыўся. Пра Крычына больш позняя звесткі амаль не сустракаюцца. Татары тут працягваюць жыць, але іх абшчына ўжо не адыгрывае той ролі, як у былыя часы. Яшчэ да другой паловы 20-х – першай паловы 30-х гадоў XX стагоддзя тут захоўваліся татарскія могілкі (найбольш старое пісьмовае сведчанне пра татарскія могілкі ў Крычыне датуецца 1642 годам), і яшчэ зусім нядаўна ў навакаллі вёскі быў курган, які называлі татарскім.

У Крычыне з даўніх часоў была каталіцкая абшчына, меўся касцёл. Час яе заснавання невядомы. Прыпісана яна была да

*Бярэзіна вясной каля старога Крычынскага парка (злева)*

*Узвышша злева ад дарогі - месца, дзе яшчэ на пачатку XX стагоддзя існавалі татарскія могілкі (знізу)*









*Амаль нічога не вядома пра гісторыю панскага дома. Нават яго месца знаходжання вызначыць не проста. Адзінае, што ад яго засталося - гэта цагляны склеп (зверху і справа).*
*Не болей засталося ў памяці жыхароў Крычына і іх наваколляў пра мінулае вёскі, маёнтка і яго гаспадароў. Калі не рабіць ніякіх захадаў, то нават рэшткі былой велічы могуць знікнуць*

Зембіна. Скасавана крычынская абшчына была ў другой палове XIX стагоддзя.

У сярэдзіне – другой палове XIX стагоддзя ў Крычыне было ўсяго 8 гаспадарак, а магчыма і меней. Пазней вёска расце. У 1890 годзе тут было 17 гаспадарак. У 1908 годзе – ужо 32. У 20-х гадах тут жыло каля85 чалавек. Зараз жа тут пражывае каля 250 жыхароў.

Не менш цікавую гісторыю мае Крычынскі маёнтак, які знаходзіцца недалёка ад вёскі на беразе Бярэзіны. Тут па сённяшні час захаваўся адзін з найбольш старых і адметных паркаў на Барысаўшчыне.

Вядомы ён па пісьмовых крыніцах з 1582 года, аднак яго гісторыя, безумоўна, значна больш старая. Менавіта на яго тэрыторыі, дзе размешчаны так званыя "панскія могілкі", знаходзіцца гарадзішча, пра якое ішла гаворка вышэй. Раскопкі на гарадзішчы, як і на тэрыторыі маёнтка, наогул ніколі не праводзіліся. Даследавалася яно ў 1979 годзе.

На месцы маёнтка ў сярэднявеччы, у часы, калі яшчэ не існаваў Барысаў, верагодна, знаходзілася значнае стратэгічна важнае пасяленне. Гэтаму шмат ускосных сведчанняў. І мусіць, не выпадкова, што ў адным з дакументаў, які датуецца 1619 годам гэты маёнтак называецца не інакш як Старое сяло.

З дакументаў канца XVI стагоддзя вынікае, што маёнтак размяшчаўся на левым беразе Бярэзіны, аб'ядноўваў землі абапал яе, а таксама сенажаці каля Гайны. Адносілася да маёнтка і вёска Касцюкі. Гаспадарыў тут пан Ян Кураж, які знаходзіўся на дзяржаўнай службе. Мелася ў той час у маёнтку і пасада пісара, якую займаў пан Вайцахоўскі.

Напрыканцы XVI стагоддзя ў гэтым месцы здзяйсняўся перавоз праз Бярэзіну ў бок Кіміі. Можна ўпэўнена казаць, што тамтэйшая пераправа праз Бярэзіну мае значна больш старажытную гісторыю, чым пераправа ў Барысаве.

У 1737 годзе маёнтак належыў панам Белановым. У XIX стагоддзі тут гаспадарылі Кукевічы. У прыватнасці, у 1876 годзе ім валодаў дваранін Іван Ігнацьевіч Кукевіч, які атрымаў яго ў спадчыну ў 1865 годзе. Між іншым, у той час гэты маёнтак уваходзіў у лік шасці найбуйнейшых прыватных маёнткаў, што знаходзіліся на Барысаўшчыне.

Апошні маёнтак каля Крычына меў вялікі аднапавярховы палац, двухпавярховы жылы будынак, канюшню і шэраг іншых гаспадарчых пабудоў. Меўся тут і драўляны мост праз Бярэзіну, праз які ішла дарога да панскага маёнтка ў Кіміі. Аднак мостам перасталі карыстацца яшчэ да другой сусветнай вайны, а будынкі маёнтка былі знішчаны партызанамі падчас яе. Да сённяшняга часу акрамя парка захаваліся толькі падмуркі будынкаў, рэшткі вялікай студні і склеп панскага дома.

**М.Мацельскі**





*На тэрыторыі бровара знаходзілася найвялікшая студня на Барысаўшчыне. Яе дыяметр -некалькі метраў. Сёлета яна была засыпана (зверху)*

*Так выглядала студня яшчэ некалькі год таму (злева)*

*На тэрыторыі маёнтка каля старога парка захаваліся падмуркі бровара і шэрагу іншых пабудоў (справа). Месцамі яны дасягаюць 1,5 - 2 метраў. Пры іх будаўніцтве шырока выкарыстоўваліся часаныя камені*

*Па сённяшні час захавалася поўнае абсталяванне бровара (знізу)*



*На сённяшні час існуюць планы адраджэння маёнтка. Аднак на шляху іх рэалізацыі маецца шмат цяжкасцей і праблем. Ці будзе калі адноўлены маёнтак каля Крычына і яго стары парк? Пэўныя спадзяванні на другое жыццё маёнтка на сённяшні час - развіццё ў ім базы для заняткаў конным спортам*






Прыблізна так магла выглядаць хата І.Клімковіча на пачатку XX стагоддзя

# Так будавалі, так жылі...

*Наша газета працягвае знаёміць сваіх чытачоў з краязнаўчымі працамі І.Клімковіча з Вялікай Ухалоды. Сёння гаворка пойдзе пра будову, планіроўку і ўнутраны змест тыповай тутэйшай хаты пачатку XX стагоддзя.*

Мне наканавана было з'явіцца на свет у хаце майго дзеда Паўлюка, былога прыгоннага селяніна. Мае бацькі – Анісім Паўлавіч і Кацярына Васільеўна (народжаная Кот з Малой Ухалоды). Паспрабую апісаць хату, у якой я нарадзіўся і правёў дзяцінства.

Хата была зрублена са спелага хваёвага лесу, дыяметрам не менш 6 вяршкоў (1 вяршок – 4,45см). Бярвенні на хату перарубліваліся сякерай, а не пілаваліся. На хату ішло не больш дзевяці вянцоў. Знутры бярвенні счэсваліся, згладжваліся. Падлога і столь насціляліся з драных сякерай дошак. Раней дошкі дралі, а не пілавалі пілой.

Как вырабіць дошкі, трэба было ўмець выбраць добры, прамы, без сучча лес, умець расчапіць бервяно клінамі. Шмат было адходаў, браку.

Драныя дошкі патрэбны былі для даху хаты і гаспадарчых пабудоў. З такіх дошак рабіліся дзверы, брамы, сталы, лавы, палаткі.

У руплівых, заможных сялян дранка рыхтавалася загадзя, асабліва для даху. Свежыя дошкі з сырога лесу складаліся ў штабялі, дзе яны пад цяжарам бярвенняў выпрамляліся і не карабаціліся. У нашым двары дранкаю былі пакрыты хата з сенцамі, клецы, стопка, паветка; на гумне - ток і ёўня. Астатнія пабудовы былі крытыя саломай.

Плошча хаты, мабыць, не перавышала 30 кв.м. Адну пятую ці шостую частку плошчы займала глінабітная печ, якая стаяла на драўляным зрубе. Комін выводзіўся з цэглы. Печ з комінкам (своеасаблівы камін) ставілася у глухім куце ля ўваходу ў хату.

Большасць рэчаў для абсталявання хаты рабілісь ў той час уласнымі рукамі, амаль усе мацаванні рабіліся без металічных дэталяў і цвікоў.

Стол, ложкі, аконныя рамы мацаваліся драўлянымі шпонкамі. Лавы ладзілі з тоўстых, шырокіх дошак на калодах (часам яны служылі ложкамі).Скрыні (для пасагу) рабіліся на шыпах і абіваліся па рагах і пасярэдзіне ліставым жалезам. З жалеза былі петлі і кручкі на дзвярах і вокнах, нажы, нажніцы, качэргі, ухваты, чапяла і скоблі (адмысловыя нажы для вырабу драўляных лыжак, начовак, карытаў, чаўноў).

Металічны посуд у хаце быў такі: чыгуны, чыгункі, бляшаны кубак, тарка, патэльня.

Гліняны посуд – міскі, гаршчкі, гладышы, кухлікі, талеркі. З інструменту пры мне ў хаце былі – папярэчная піла, сякеры, косы, сярпы, малаткі, свёрдлы, долаты, струг, жалезная лапата, жалезныя вілы. Цвікі з жалеза выкарыстоўваліся рэдка – яны каштавалі грошаў! А адкуль тыя грошы ўзяць? Калі яны з'яўляліся ў гаспадарцы, то выдаткоўваліся на ўплату розных падаткаў і нядоімак.

Хата мела адзін жылы пакой, дзе месціліся 7-8 чалавек: старыя, дарослыя, дзеці. Тут нараджаліся і памiралі. Узімку тут жа знаходзіліся паўтара - два дзесяткі курэй. На ноч іх заганялі пад печ. Удзень яны вольна хадзілі па хаце, заляталі на стол, ложкі, лавы і, зразумела, гадзілі, дзе прыдзецца. Пасля ацёлу каровы ці акоту авечкі цялё ці ягнё прыносілі ў хату, каб яны не замерзлі ў халодным хляве. Тое самае было і з парасятамі. Жыла ў хаце і кошка з кацянятамі. Сабаку пускалі толькі ўдзень, каб пакарміць. Але ў моцныя маразы і ён начаваў у цяпле. А яшчэ з жыўнасці вадзіліся ў хаце мышы, прусакі, скачыхі, клапы, вошы і, вядома, цвыркун. Летам да гэтай кампаніі далучаліся мухі.



Вентыляцыя паветра ўзімку ішла праз дзверы і праз комін у час, калі палілі ў печы. Вокны не расчыняліся, фортак таксама не было. На падаконніках ўзімку ўвесь час было вільготна. У летні час частка сям"і спала ў сенцах, у клеці, на сенавале. Падлогу ў хаце мылі толькі да вялікіх святаў (каб менеі гніла). Падполле дзеля збережэння цяпла не праветрывалі. З двух бакоў абапал хаты былі прызбы – насыпы шырынёй з паўметра і вышынёй да першага вянца ўключна. Дошкі ў падлозе і падкладкі хутка прагнівалі, падлога прагіналася, перакошвалася. На гэта мала звярталі ўвагі.

Дошкі столі клаліся цераз усю даўжыню хаты на два папярэчныя брусы. Яны абапіраліся на трэці брус (прадольны). Гэты сярэдні брус быў свайго роду паліцай і апорай для гнуткай жэрдкі, на якую падвешвалася калыска.

Зверху столь уцяплялася, дзеля чаго ўсцілалася спачатку пучкамі саломы, потым сухім лісцем, а зверху – сухім пяском.

Печ была прытулкам для дзетак узімку, а для старых – увесь год. Кожны імкнуўся пагрэцца на ёй. На печы сушыліся смалякі, лучына, сырое адзенне, анучы. На шастках развешваліся цыбуля і часнок. Вязкі цыбулі віселі і па глухой сцяне ад печы над палком і ложкам і далей па пярэдняй сцяне амаль да яе паловы. Тут жа на шастку віселі святочнае адзенне і святочныя боты (адна пара на ўсю сям'ю), клубкі пражы.

Збіць (а не скласці) печ трэба было ўмець. Гэтым займаліся адмысловыя майстры. Комін і некаторыя дэталі печы выкладаліся цэглай - сырцом. Цэгла рабілася і сушылася тут жа, у двары, у час будаўніцтва хаты і печы.

Добра напаленая печ (асабліва для выпечкі хлеба) трымала цяпло вельмі доўга.

Дзеля ўтрымання цяпла юшкі рабіліся падвойныя: для печы і для коміна асобна. У загнёце печы захоўваліся гарачыя вуглі. Раніцай яны выгортваліся з попелу, складаліся на прыпечку, раздзьмухваліся, і ад іх запальвалася сухая лучына. Гэта рабілася не дзеля забавы, а таму што ў хаце звычайна запалак не было. За запалкі трэба было плаціць грошы, якіх заўсёды не ставала. Кошт запалак быў паўкапейкі за пачак. Калі ў сваім загнёце вуголле згасала, то ішлі да суседзяў і прыносілі вуглі ў чарапку.

Калі ж запалкі і былі, то іх эканомілі: адну буйную запалку дзялілі ўздоўж на дзве часткі. Па некалькі запалак бралі па чарзе конюхі, калі ехалі на начлег.

Курыльшчыкі мелі пры сабе для здабывання агню крэмень, крэсіва і кнот, які пасля выкарыстоўвання (цыгарка прыкурана) запіхваўся ў адмысловую металічную трубачку, дзе патухаў, і якая бараніла яго ад вільгаці.

Рог печы, які выходзіў амаль на сярэдзіну хату, служыў комінкам (камінам). Комінак запальваўся звычайна ўзімку: вечарам і раніцай да світання асвятляў хату, часткова саграваў, і, ў выключных выпадках, на ім грэлі невялікі чыгунок з ежай. Палілі на комінку смалістыя сухія чуркі – смалякі. Ля яго было адначасна светла і адначасна цёпла. Тут кожны займаўся сваёй справай: пралі, плялі лапці, вілі аборы, вучылі ўрокі. Для большага святла дадаткова запальвалі лучыну. Часам карысталіся толькі святлом ад лучыны. Лучынай асвятлялі сенцы, стопку, лазню. Ліхтара ў хаце не было.

Пасля паявілася газнічка. Гэта была бляшанка з газай. У накрывачцы - каўпачку быў ніцяны кнот, які гарэў цьмяным святлом.

Пазней набылі і газавую лямпу. Лямпу палілі толькі па святах, на хрэсьбінах ці ў час гаспадарчых спраў: калі малацілі, мялі лён, ткалі кросны.Калі ў каго ў хаце не было лямпы – на сямейныя святы пазычалі ў суседа.

Чырвоны кут удзень быў самым светлым месцам у хаце. Два акны. Пакрыты абрусам стол. Пярэдні кут аклейваўся паперай, потым шпалерамі. На куце вісела 3-5 абразоў. Часцей за ўсё гэта былі абразы, якія прыносілі з сабой нявесткі.

На левай сцяне (ад двара) было два акны: адно вялікае - у чырвоным куце, другое маленькае - насупраць печы. Паміж імі быў убіты драўляны крук для штодзённага адзення і галаўных убораў. Злева ад ўваходу звычайна ставіліся кросны. На тыльнай сцяне злева ад уваходных дзвярэй на двух паліцах месціўся посуд.

***І.Клімковіч***



*План хаты І.Клімковіча па стану да 1902 года*

*Такім чынам у старыя часы выраблялася пакрыццё дахаў без прымянення цвікоў*



*У старой частцы Барысава, побач з сярэдняй школай № 1, знаходзіцца ціхая і непрыкметная вуліца імя Хацкевіча, якая за час свайго існавання, бадай, сем разоў мусіла мяняць назву.*

У гэтым доме ў 1919–1923гг. жыў Хацкевіч Аляксандр Ісаакавіч (1895–1938гг.) – актыўны барацьбіт за ўстанаўленне Савецкай улады на Барысаўшчыне. З 1925 па 1937 год ён з'яўляўся членам Урада БССР і СССР.

Дом па вуліцы Дзяржынскага, у якім жыў А.Хацкевіч

# Што ў імені тваім, ціхая і непрыкметная вуліца?

За якія ж такія заслугі А.Хацкевіч быў ушанаваны такім высокім гонарам? Аляксандр Ісакавіч Хацкевіч (1895 – 1937), які нарадзіўся ў вёсцы Навасёлкі (лошніцкія) Барысаўскага павета, вядомы перадусім як удзельнік першай сусветнай вайны. Сябра ВКП(б) з 1917 года. У перыяд нямецкай акупацыі (1918 г.), калі на абшарах былой Расійскай імперыі пачалася грамадзянская вайна, знаходзіўся на падпольнай рабоце ў мясцінах, знаёмых яму з дзяцінства.

Са снежня 1918 года ён – старшыня Лошніцкага валаснога выканаўчага камітэта, рэўкома воласці, Барысаўскай павятовай інспекцыі. Са снежня 1920 года – старшыня Барысаўскага павятовага выканкама. У снежні 1922 года ў якасці ўпаўнаважанага прадстаўніка Беларусі ўдзельнічаў у падпісанні дэкларацыі аб утварэнні СССР. З траўня 1924 года – старшыня Магілёўскага акружнога выканкама. З красавіка 1925 года – Народны камісар унутраных спраў БССР. Пасля ваеннай разрухі шмат зрабіў для адбудовы гаспадаркі ў нашай рэспубліцы. З красавіка 1926 па 1931 гады – пастаянны прадстаўнік БССР пры ўрадзе СССР, з траўня 1927 года працуе сакратаром ЦВК БССР. Затым, у сакавіку 1931 года – Народны камісар фінансаў БССР. У 1935 – 1937 гадах – сакратар Савета нацыянальнасцей ЦВК СССР. У розныя гады абіраўся ў Прэзідыумы Вярхоўных Саветаў БССР і СССР.

Падчас рэпрэсіяў яго напаткала злая доля...

У размове з ягоным сынам Уладзімірам Хацкевічам, якая адбылася ў чэрвені 1997 года, высветлілася, што дакладная дата смерці яго бацькі не 1943 год, як гэта пададзена ў Кароткай энцыклапедыі Бел.ССР, і не 1938 год, як высечана на мармуравай мемарыяльнай шыльдзе, што прычэплена на будынку № 64 па вул. Дзяржынскага, дзе жыў А.Хацкевіч. Яго расстралялі 24 лістапада 1937 года ў Менску, мабыць, дзесьці ў Курапацкім лесе. Прынамсі, гэта паведамілі Уладзіміру Аляксандравічу на ягоны нядаўні запыт з камітэта дзяржбяспекі Рэспублікі Беларусь.

Так улада, якую ён ажыццяўляў сам, у рэшце рэшт яго і знішчыла. Рэабілітаваны ён быў у 1956 годзе.

Трагічны лёс А.Хацкевіча – гэта злавесны паўтор мільёнаў загубленых чалавечых жыццяў у імя камунізацыі грамадства, у якім сваім сатанiскім балем кіравалі І.Сталін, Н.Яжоў, Л.Берыя, Б.Берман, Л.Цанава. У выніку блюзнерскіх эксперыментаў над людзьмі цяперашняе пакаленне беларусаў будзе яшчэ вельмі доўга пажынаць горкія плады тых цемрашалаў.

Дарэчы, жонка Хацкевіча – Лідзія Гаховіч, як "член сям'і ворага народа" многія гады знаходзілася ў лагерах ГУЛАГа. Двое іх дзяцей выхоўваліся ў дзетдоме.

Сумная гісторыя, але яе трэба ведаць.

*А.Шустоўскі*

*А.Хацкевіч (зверху) і адказ з КДБ, які пралівае святло на яго трагічнае завяршэнне жыцця (знізу)*

КАМІТЭТ ДЗЯРЖАЎНАЙ БЯСПЕКІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
220023, г. Мінск
24.10.1994 г.
№ Х-6617
На №________
ад ___ ________ 199 г.

222120 г. Борисов
ул. Чапаева
дом 48 кв. 66

В.А. Хацкевичу

Уважаемый Владимир Александрович!

Ваше заявление, поступившее в КГБ Республики Беларусь, внимательно рассмотрено.

Сообщаем, что Ваш отец – Хацкевич Александр Исакович, 1895 года рождения, уроженец дер. Новоселки, Борисовского района, житель г. Москвы, до ареста Секретарь Совета Национальностей ЦИКа СССР, арестован 25 июля 1937 года, обвинялся по ст. 63-1а; 69; 70 и 76 УК БССР в том, что являлся агентом Польгенштаба, с 1927 года являлся активным участником антисоветской фашистской организации в Белоруссии, с 1933 года являлся участником антисоветской террористической организации правых, осуществлял связь между центром правых в Москве и антисоветской организацией правых в Белоруссии, сторонник индивидуального террора.

Постановлением выездной сессии Военной Коллегии Верховного Суда Союза ССР от 24 ноября 1937 года Хацкевич А.И. приговорен к ВМН – расстрелу. Приговор приведён в исполнение в гор. Минске 24 ноября 1937 года. В связи с этим выражаем Вам сочувствие. Смерть близкого Вам человека перерегистрирована в отделе ЗАГСа Борисовского РИК, откуда Вы получите извещение о смерти Вашего отца.

Данных о более точном месте захоронения Хацкевича А.И. в КГБ РБ не имеется. Вероятно, его останки покоятся в лесном массиве "Куропаты" (северная окраина г. Минска), который правительственной комиссией Республики Беларусь признан местом, где приводились в исполнение постановления несудебных органов о ВМН в отношении безвинных жертв политических репрессий 30-40-х годов и начала 50-х годов.

Определением № 4н-06010/56 Военной Коллегии Верховного Суда Союза ССР от 28 апреля 1956 года Хацкевич А.И. реабилитирован.

Начальник отдела [подпіс] А.И. Верас

## Мой любы край

Мой любы край, цябе я сэрцам чую
Ў птушыных песні, ў звоне ручаін,
У шуме зеляненечай лістоты
І у напеўным гомане гаёў.

Мой любы край, цябе я сэрцам бачу
У майскай белай кіпені садоў,
У чыстым небе, у жытнёвым полі,
І у пяшчоце мірных галубоў.

Мой любы край, цябе я так малюю:
Зялёнай фарбай – летнія лугі,
Блакітнай – хвалі возера лясного
І жоўтай – хуткай рэчкі берагі.

*Казак Вольга, СШ№24, 10кл.*

# Барысаўскі абшарнік – краязнаўца І.Каладзееў

На працягу свайго свядомага жыцця барысаўскі абшарнік Іван Хрысанавіч Каладзееў (1859 – 1914) апантана збіраў матэрыялы, якія прысвечаны вайсковым падзеям на еўрапейскім кантыненце ў 1808 – 1815 гадах. На думку тагачасных гісторыкаў і бібліёграфаў, такога збору не было не толькі ў Расійскай імперыі, але і ў іншых краінах Еўропы. Ягоная унікальная калекцыя (каля 15 тысяч кніг, брашур, больш за 3 тысячы гравюр і літаграфій, шмат дакументаў) згодна завяшчанню іх уладальніка перададзена ў Расійскі гістарычны музей у Маскву.

Чаму б зараз Старшыні Вышэйшага Савета Саюза Беларусі і Расіі не разгледзець пытанне аб вяртанні той каладзееўскай бібліятэкі на колы свае, гэта значыць, у Барысаў? Тым больш, што прэцэдэнт ужо ёсць: у 1920-я гады частку кніг з ягонай калекцыі перадалі ў БССР.

*А.Шустоўскі*

# Друцкія карані і галіны майго радаводу

*(Працяг, пачатак у № 10, 11 за 2001 г.)*

Друцкае княства па тым часе было вядомым, бо сапернічала з Полацакам, Менскам і Віцебскам за першынство ў Полацкіх землях. А друцкі князь Барыс Усяслававіч у 1102 годзе нават заснаваў горад Барысаў. У 1387 годзе горад Друцк згадваецца у "Спісе рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх". Але ў другой палове XVI стагоддзя Друцкае княства раздрабнілася на маёнткі. Праўда, прыкладна ў гэты час паводле другога статута Вялікага Княства Літоўскага, прынятага ў 1566 годзе, уласнікі набылі права прадаваць і завяшчаць свае вотчыны, каму пажадаюць. Як адзначае ў сваім артыкуле "Друцкае княства і князі друцкія" вядомы беларускі гісторык В.Л.Насевіч: "Гэта паскорыла стварэнне вялікіх маёмасных комплексаў - латыфундый шляхам скупкі змізарнелых маёнткаў. Асабліва значная латыфундыя на землях, што прылягалі да Друцка, утварылася на пачатку XVII стагоддзя дзякуючы дзейнасці славутага канцлера ВКЛ і віленскага ваяводы Льва Іванавіча Сапегі. Ён быў сынам Івана Сапегі і Багданы Канстанцінаўны Друцкай-Саколінскай (Каноплі), з'яўляючыся, такім чынам, нашчадкам князёў Друцкіх па жаночай лініі".

Асабліва цікавым і значным з гэтых падзей для майго роду з'яўляецца той факт, што тагачасным трымальнікам былых уладанняў князёў Відзініцкага і Сенскага ў Худаве быў Марцін Курч. Дык вось мая дзевяностаніцігадовая бабуля Маланння Сяргееўна Курчова (дзявочае прозвішча - Сапяжынская), неадноўчы любіла паўтараць, што яе муж, а мой дзед Курчоў Апанас Парфёнавіч (1890-1964 г.г.), які пахаваны на вядомых Маскоўскіх могілках - своеасаблівым беларускім пантэоне вядомых нашых людзей, пераказваў радавую легенду пра аднаго свайго багатага прашчура, унук якога пасля падзелу Рэчы Паспалітай замяніў прозвішча Курч на расійскі манер. Менавіта адтуль і цягнецца род Курчовых.

Дарэчы, вось што цікава: у адным з дыярыушаў XVII стагоддзя мне яшчэ ў студэнцкія гады на вочы патрапіла прозвішча Лайковіч. Не ведаю чаму, але першай думкай пасля доўгага ўтрапення, было ўзнаўленне ў памяці падзей гісторыі канца таго ж XVIII стагоддзя. калі пасля трох падзелаў Беларусь была далучана да Расіі...

Дарэчы, я многа разоў, асабліва ў апошнія гады жыцця маёй амаль стогадовай бабулі Маланні, пытаўся ў яе, адкуль узялося прозвішча яе бацькі Сапяжынскага Сяргея Мікітавіча, майго прадзеда. Яна адказвала, што мой прадзед заўсёды, асабліва пры ўнуках, з гонарам называў сваіх дзядоў і прадзедаў людзьмі Івана і Льва Сапегаў.

Калі стаім мы з маці і ўсімі нашымі сямейнікамі ля магілаў бацькі і бабулі (яны пахаваны ў адной агародцы), углядаемся ў здымкі-абліччы родных людзей, то абавязкова кожны раз нехта з нас першым вымавіць: "Якая прыгожая наша Малання! Ну быццам тая артыстка! Які высакародны выгляд твару!"

**Упаравень з векам**
**І з лёсам краіны,**
**З Абчугскай зямлі, не адкуль**
**Шлях бабулі адзіны -**
**І ад бацькі Сяргея.**
**І ад маці Хрысціны**
**Узяла дабрыню і надзею**
**І характар надзвычай мілы.**
**Па вясне Апанаса сустрэла,**
**Сын Валодзя з'явіўся.**
**Колькі летаў прабегла -**
**Час жа той не забыўся.**
**Дачку потым Валю**
**Зберагала, з любоўю люляла.**
**Праз гады ўспамінаў нямала**
**З той пары наплывала.**
**І з Лідай сваёй апошняй**
**Калыханкай ёй цешыла час.**
**Занясло снегавою парошаю -**
**Напамінак прыходзіць да нас.**
**Гарыстая вёска Хватынка.**
**І хата ў Мінску свая -**
**Вас хілілі як тую былінку,**
**Вось такая была жытня.**
**За вайною паспелі ўнукі,**
**Цэлых восем прынеслі гады.**
**Вы і тут без якойсьці прынукі**
**За справу жыцця ўзяліся тады.**
**Пры жыцці пахавалі сына,**
**Адплакалі вочы крывінку сваю.**
**Год назад Вас забрала магіла,**
**Ля якой я сягоння стаю.**
**Спіце спакойна і жывіце,**
**Калі праўда, што ТАМ жывуць.**
**Край Хватынскі і Мінскі сніце -**
**Ну а нашы гады шчэ бягуць.**

Сёння кожны з нас яшчэ пільней і пільней думкамі ўглядаецца ў далёкае мінулае Лайковых, Курчовых, Сапяжынскіх, Сальнікавых (дзявочае прозвішча маёй прабабулі Хрысціны Сапяжынскай). Я менш, калі не зусім мала, ведаю бабулінага брата Мікіту, які напярэдадні першай сусветнай вайны назаўсёды з'ехаў у Амерыку, сястру Таню, якая не адзін раз у гады майго дзяцінства прыязджала гасцяваць у Астроўкі аж з самай Масквы, дзе і жыла да смерці. Крыху больш ведаю пра старэйшую бабуліну сястру Домну з Барысава. Даўно ўжо яе пахавалі, ужо далучылася да яе дачка, мая цётка Аня. Жыве ў Барысаве яе васьмідзесяціпяцігадовы муж, мой дзядзька Ваня Смірноў. Ужо ўвабраліся ў ладныя гады іх дочкі Люда і Света, амаль мае пагодкі. Жывуць сем'ямі і нарадзілі ім унукаў іх дзеці, мае пляменнікі: Уладзімір, Вольга, Сяргей і Анатоль.

Калі я прыязджаю ў Менск і прыходжу на Маскоўскія могілкі, то адным разам і ў адзін дзень схіляю галаву ў задуменні ля магілаў Петруся Броўкі, Івана Мележа, Пятра Машэрава, Уладзіміра Караткевіча, Яўгеніі Янішчыц, майго роднага дзеда Курчова Апанаса Парфенавіча. Жыў ён у Менску, ці не адзін толькі раз прыйшлося яго мне пабачыць. Запомніўся нейкім вельмі сур'ёзным, крышачку нават злым чалавекам. Быў ён ужо тады хворым, можа таму і не змог сваім сельскім унукам падараваць на ўспамін добрую ўсмешку. Аднаго яго роднага брата, дзеда Яшу, які жыў у Маскве па вуліцы Маякоўскага, прыйшлося ўбачыць і нават пабыць у гасцях. Ён быў інжынерам з вышэйшай адукацыяй, праектаваў і будаваў караблі. Пасля яго застаўся сын Юрый. Астатніх братоў - сясцёр дзеда я не ведаю, але магу назваць імёны: Гапуля, Алёна; Домна. Дарафей.

Мой дзед Апанас і бабуля Маланння нарадзілі і выгадавалі трох дзяцей: майго роднага дзядзьку Валодзю, родную цётку Ліду і маю дарагую маці Валянціну.

Не магу не спыніцца падрабязней і не расказаць пра ўсіх іх. Дзядзька Валодзя ў маім і нашым жыцці быў, калі так можна сказаць, знакавым родным чалавекам. Мы яго і любілі і, чаго граху таіць, пабойваліся. Як-ніяк, былы партызан, выкладчык Інстытута фізкультуры ў Менску, вельмі прыгожы і сімпатычны (такім здаваўся і тады, такім і застаўся ў памяці) мужчына.

На пачатку шасцідзесятых гадоў прыязджаў Уладзімір Апанасавіч у Астроўкі на ўласнай "Победе". Неяк, напрыканцы жыцця, ён мне прызнаваўся, што тады, калі ён купіў сабе машыну, у Менску, калі і было, то ўсяго некалькі святлафораў: я так разумею яго, што і машын тых легкавых у Менску тады таксама было небагата. Заўсёды дзень, калі дзядзька Валодзя прыязджаў у вёску, здаваўся святочным. Мы, хлопцы, вымывалі ўсе падлогі ў хаце, выміталі ўвесь немалы наш двор. Калі была зіма, то трыццацімятровая вулка, куды, звычайна, заганялася машына, якія б там ні былі гурбіны снегу, ачышчалася да самай зямлі.

*(Працяг будзе)*

*У.Лайкоў*







*Фрагменты са спектакля "Піфагор" у выкананні барысаўскага народнага тэатра "Відарыс"*

# І ўсё ж каханне!

*Вечарам 30 лістапада ў гарадскім Палацы культуры панаваў святочны настрой. Свой чарговы сезон распачаў барысаўскі народны тэатр "Відарыс". На сустрэчу з улюбёнымі артыстамі сабраліся шматлікія прыхільнікі тэатральнага мастацтва. Павіншаваць трупу з пачаткам сезона прыехалі госці з Менска: намеснік начальніка ўпраўлення культуры аблвыканкама Аляксандр Пятровіч, галоўны рэжысёр АНМЦ Вячаслаў Кісялёў, галоўны балетмайстра вучылішча мастацтваў Анатоль Карповіч.*

Новы сезон тэатр "Відарыс" адкрыў спектаклем "Піфагор" па п'есе Якава Касцюкоўскага і Марыса Слабадскога.

Гэтая гісторыя, у чымсьці вясёлая і наіўная, у чымсьці сумная і павучальная, актуальная і ў наш час, бо загадкі кахання будуць хваляваць людзей да апошніх хвілін існавання нашай цывілізацыі. Пачуцці і імкненні герояў, камічныя сітуацыі, намёкі на магчымыя ахвяры дзеля кахання, яркія касцюмы і элементы буфанады – усё гэта робіць п'есу "Піфагор" выгоднай для пастаноўкі.

Але гэтага мала. Каб спектакль атрымаўся, неабходна перакanaўчая ігра ўсёй трупы. І ў гэтым калектыў тэатра "Відарыс" дабіўся поспеху. Сведчанне таму – авацыі публікі, кветкі, добры настрой пасля спектакля.

Вельмі задавальняе тое, што артысты, з'яўляючыся аматарамі, развіваюць прыродныя даныя, праяўляюць сапраўдны энтузіязм, адданасць сваёй справе.

Выдатна выконвае роль Кліо-Кліёна Алёна Кучарэнка. Сцвярджаючы прыярытэт кахання, яна выяўляе сапраўдны артыстызм, зграбнасць, вылучае абаянне прыгажосці. Роль поўніцца жаночымі хітрыкамі, выдумкай і шчырым пачуццём. Нельга не адзначыць і добрыя вакальныя даныя Алёны.

Мужным і ўмодроным жыццёвым вопытам выглядае Піфагор (Уладзімір Буйко). Па сцэнарыю гэта філосаф з рацыянальнымі перакананнямі, але чары закаханай жанчыны мяняюць яго погляды на жыццё. У рэшце рэшт ён прызнае, што чалавек мусіць жыць не толькі розумам, але і сэрцам.

Забаўна выглядаюць вучні Піфагора, камічны ў сваім глупстве Эпіхарм (У.Заблоцкі), цынічны Эланодзік (А.Маневіч). Андрэю Гімбуту добра ўдаецца перадаць ваяўнічую пасрэднасць Эпея. Вельмі натуральная Зоя Міхалкевіч ў ролі шчадралюбнай Арыстамахі. Хочацца адзначыць выдатную пластычнасць Святланы Буйко, каторая выконвае роль гетэры Мілены.

Спектакль багаты музыкай, танцамі, сілавой барацьбой. Усё гэта дазваляе стварыць яркае відовішча. Тэмпература ў глядзельнай залі была значна ніжэйшая за пакаёвую, толькі некаторыя з гледачоў рызыкнулі зняць верхняе адзенне, а акцёры гралі напаўаголеныя, рухаліся па сцэне басанож, бо падзеі спектакля адбываюцца ў гарачым клімаце Элады. За гэтую мужнасць ім – асаблівы дзякуй.

Самымі разумнымі па задуме п'есы аказваюцца не галоўныя героі, а Кліо і нявольнікі Эпіхарма. У асобныя моманты яны вымаўляюць проста мудрыя думкі. Цікавая знаходка рэжысёра – самая маленькая ўдзельніца спектакля Аліна Пуцiс. Яна весела мяняла месца дзеі, праносячы па сцэне адпаведныя шыльды.

Адкрыццё сезона можна лічыць удалым. Думаецца, што спектакль "Піфагор" па-іншаму б глядзеўся на сапраўднай сцэне. Тэатр "Відарыс" рыхтуецца стаць прафесійным калектывам. Можа быць, гэта паслужыць падставай для таго, каб пабудаваць у Барысаве будынак сапраўднага тэатра.

**С.Віктараў**

# Прафесійны тэатр у Барысаве?

*Наша газета ўжо паведамляла, што 23 – 25 лістапада ў горадзе Беразіно праходзіў ІІІ-і абласны фестываль аматарскіх тэатраў, у якім прымалі ўдзел лепшыя калектывы Менскай вобласці.*

Барысаўскі тэатр "Відарыс", які з'яўляецца двойчы пераможцам гэтага тэатральнага фэсту, быў запрошаны ў якасці "Шаноўнага госця". Сёлета званне "лаўрэата" атрымаў спектакль "Чорная панна Нясвіжа" па п'есе А.Дударава Нясвіжскага народнага тэатра. Трэба адзначыць, што гэта перамога далася ў напружанай барацьбе з тэатрамі Жодзіна, Беразіно, Слуцака, Маладзечна і Магілёва. На гэты раз нясвіжцы былі, на думку журы, мацнейшымі.

Ну а сапраўдным святам фестывалю быў спектакль "Піфагор" Барысаўскага тэатра "Відарыс", калектыў якога гледачы доўга не адпускалі са сцэны. А самае галоўнае – прагучала афіцыйная заява, што ў Барысаве плануецца стварыць у 2003 годзе прафесійны тэатр на аснове тэатра "Відарыс".

Надзеі і поспехаў, "Відарыс"!

**У.Блажыевіч**

## Наша гацёўня

### Казка пра нас

Аднойчы ў Сусвеце з'явілася планта "Х", і на ёй адразу ж пасяліліся добрыя і злыя гномы. Добрыя клапаціліся аб прыродзе, садзілі сады, турбаваліся аб жывёлах, а злыя забруджвалі навакольнае асяроддзе і ўвесь час перашкаджалі добрым гномам. Доўгі час жыхары планеты "Х" жылі ў гармоніі з прыродай. Яна давала ім усё і не патрабавала ўзамен нічога, акрамя павагі да сябе. І жыхары паважалі прыроду, не забруджвалі яе. Але вось на планеце "Х" закруцілася кола прагрэсу: стваралiся новыя механізмы, машыны, будаваліся заводы, з'явілася ядзерная зброя. Жыхары планеты цалкам пераключыліся на выраб тэхнічных навінак і забыліся пра павагу да прыроды. "Смецце, выкінутае на вуліцы, - дробязь! Не будаваць новы завод, каб не забруджваць прыроду – гэта ж дурасць!" – думалі яны. А планета "Х" тым часам ператваралася ў вялікі і брудны сметнік. Так злыя гномы зрабілі сваю чорную справу, і планета разам з жыхарамі была знішчана. Усе проста задыхнуліся газамі, паатручваліся забруджанай вадой, загінулі ў шматлікіх ядзерных войнах.

Давайце ператворымся самі ў тых добрых гномаў і выратуем нашу Зямлю, на якой зараз тыя ж праблемы, што былі на планеце "Х". Будзем паважаць прыроду. Не будзем забруджваць навакольнае асяроддзе.

Ператворым нашу планету ў квітнеючы сад!

Толькі ў гэтым выпадку мы выратуем жыццё на Зямлі.

**Духан Юрый, 8"Д",СШ№16**

### Царэўна- птушка

Учора мой старэйшы брат Стась, натураліст, паабяцаў пазнаёміць мяне з лесам. З надвор'ем не надта пашанцавала. Але Стась паглядзеў на неба і сказаў, што днём будзе сонечна і дажджу не будзе:

- Зранку жаўранак спявае, - сонца заззяе, - пацвердзіў свае назіранні Стась. І мы пайшлі. Брат сказаў, што лес, у які мы пойдзем, называецца Вясёлым лесам.

- Як гэта? – здзівіўся я.

- У гэтым лесе шмат птушак, і ўдзень гэты лес звініць на ўсе галасы – таму і называецца Вясёлым, - растлумачыў Стась.

А ў лесе і сапраўды было хораша і весела.

Як добра, што я здагадаўся ўзяць з сабой рагатку, - падумаў я, калі мы ўвайшлі ў лес.

А тут насустрач змяя. Як добра! Яе трэба асцярожна забіць, распароць ёй жывот, падвесіць на палку – цудоўнае відовішча.

Але змяюка спрытная папалася, уцякла. Усё ж такі я паспеў падбіць ёй хвост. "І то добра,"- уздыхнуў я.

Але што гэта? Стась абяцаў пагоды дзень, а надвор'е стала яшчэ пахмурней. І дзе ж гэта Стась? Мабыць, пайшоў уперад. Зараз я яго даганю, вось толькі…Ого! Якое гняздо! Хоць на выставу! Я яго дома разбяру, а птушка сабе новае збудуе, ёй усё роўна рабіць няма чаго. А яйкі? Потым знойдзе, я іх сюды пакладу, на зямлю.

- Ого! Як сцямнела! Зараз пачнецца навальніца. Дзе ж Стась? Зараз, зараз я яго даганю. Вось толькі ж яшчэ не выпрабаваў маю новую рагатку. Сюды, сюды, дзюбатыя!

Раптам бліснула маланка, ударыў гром, усё стала чорным, нібы ўначы. І нібы махі вялікай птушкі, мне ў твар пачаў біць вецер.

- Ты прыйшоў сюды госцем! – пачуў я гучны, грозны голас. – Мы сустрэлі цябе, як сябра. Але ты падзякунску адплаціў нам.

Тут вецер падзьмуў мацней. І ў водблiску маланкі паказалася нешта падобнае ці на вялікую птушку, ці на калматую жанчыну.

Мне зрабілася так жудасна, што я, не памятаючы сябе, пабег з гэтага лесу куды далей.

Я так хутка дабег да вёскі, што аж здзівіўся. Азірнуўся на лес – хмары над ім ужо разышліся, і лес ізноў запеў на ўсе галасы.

Хутка прыйшоў Стась з лесу і сказаў, што жывы барометр яго не падмануў – увесь ранак ззяла сонца. Я здзівіўся яшчэ мацней – няўжо Стась не бачыў гэтую жудасную навальніцу? Прайшло два дні, і маці адправіла мяне ў той лес па грыбы. Зноў у той лес! Зноў да вядзьмаркі! Было жудаснавата, але мне і самому хацелася яшчэ раз яе пабачыць. Я ўзяў сваю рагатку і вырашыў страляць у яе, калі яна яшчэ раз падыдзе. Але яна не падышла, у лесе было хораша і ціха.

Але цуд: у лесе не было ні грыбоў, ні ягад, нічога. І яшчэ я заблудзіўся. Усё нібыта знікала ад мяне. Станавілася жудасна яшчэ і ад таго, што ў лесе стаяла незвычайная цішыня. І тут я зразумеў: гэта яна, гэта ўсё тая вядзьмарка. Я крыкнуў:

- Гэй ты, вядзьмарка! Я цябе не баюся! Пусці мяне дадому, а то…

І вось яна сама стаяла перада мною. Але яна была не вядзьмарка, гэта была прыгожая жанчына, пакрытая пер"ем.

- Я не вядзьмарка, - усміхнулася яна. – Я – царэўна-птушка. Я абараняю гэты лес. Калі сюды прыходзяць сябры, лес становіцца для іх сябрам. Ты прыйшоў ворагам, і лес адвярнуўся ад цябе.

І тут я зразумеў сваю памылку.

- Я таксама стану лесу сябрам – сказаў я царэўне-птушцы.

І здарыўся цуд. Лес адразу зазвінеў і ўсміхнуўся. Калі мы развіталіся з царэўнай, я падумаў:

- Як добра сябраваць з лесам!

**В.Аксёнава, 9кл, гімназія №2**

*Даўно ведаю Святлану Смольскую як вопытнага педагога, як актыўнага журналіста, які часта выступае ў мясцовым і рэспубліканскім друку з інфармацыйнымі і аналітычнымі матэрыяламі на педагагічныя тэмы, з грунтоўнымі творчымі партрэтамі лепшых педагогаў горада Барысава. І ў свой апошні візіт у рэдакцыю яна прынесла аналітычны матэрыял пра гарадскія праблемы і… прыпеўкі. Мы іх са здавальненнем друкуем, разумеючы, што іх можна з карысцю скарыстаць на пэўных школьных мерапрыемствах. Спадзяемся, што хто-небудзь, прачытаўшы іх, захоча напісаць свае прыпеўкі. Рэдакцыя "ГБ" гарантуе, што лепшыя з іх будуць надрукаваны.*

**І.Белы**

1. Як урокі я зраблю,
Кніжкі я чытаю.
Гультаёў я не люблю,
Усюды іх пазнаю.

2. Кніжкі я люблю чытаць
У бібліятэцы,
А гультай чытаць не любіць
Скача ў дыскатэцы.

3. Каб разумным хутка стаць,
Трэба многа кніг чытаць.
А гультай чытаць не любіць,
У футбол ідзе гуляць.

4. Ён гуляе ў футбол,
Скача ў дыскатэцы.
Сачыненне напісаць:
- Памажыце, дзеці!

5. А каб кнігі ён чытаў,
Ведаў бы паболей,
На пяцёрку напісаў
Сачыненне ў школе

ТУМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

# Каляндар памятных дат і юбілеяў Барысаўшчыны на 2002 год

**900** год Барысаву
**210** год надання Барысаву поўнага магдэбурскага права і герба
**190** год пераправы Напалеона праз Бярэзіну і бітвы на Брылёўскім полі

| СТУДЗЕНЬ | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| п | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| а | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| с | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| ч | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| п | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| с | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| н | 6 | 13 | 20 | 27 | |

| ЛЮТЫ | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| п | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| а | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| с | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| ч | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| п | 1 | 8 | 15 | 22 | |
| с | 2 | 9 | 16 | 23 | |
| н | 3 | 10 | 17 | 24 | |

| САКАВІК | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| п | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| а | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| с | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| ч | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| п | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| с | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| н | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |

| КРАСАВІК | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| п | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| а | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| с | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| ч | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| п | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| с | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| н | 7 | 14 | 21 | 28 | |

| ТРАВЕНЬ | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| п | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| а | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| с | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| ч | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| п | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| с | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| н | 5 | 12 | 19 | 26 | |

| ЧЭРВЕНЬ | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| п | | 3 | 10 | 17 | 24 |
| а | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| с | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| ч | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| п | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| с | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| н | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |

| ЛІПЕНЬ | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| п | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| а | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| с | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| ч | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| п | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| с | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| н | 7 | 14 | 21 | 28 | |

| ЖНІВЕНЬ | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| п | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| а | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| с | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| ч | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| п | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| с | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| н | 4 | 11 | 18 | 25 | |

| ВЕРАСЕНЬ | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| п | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| а | | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| с | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| ч | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| п | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| с | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| н | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |

| КАСТРЫЧНІК | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| п | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| а | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| с | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| ч | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| п | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| с | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| н | 6 | 13 | 20 | 27 | |

| ЛІСТАПАД | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| п | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| а | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| с | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| ч | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| п | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| с | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| н | 3 | 10 | 17 | 24 | |

| СНЕЖАНЬ | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| п | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| а | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| с | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| ч | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| п | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| с | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| н | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |

*Дзяржаўныя святы:*

*1 студзеня - Новы год*
*7 студзеня - Каляды (праваслаўныя)*
*8 сакавіка - Дзень жанчын*
*31 сакавіка - Вялікдзень (каталіцкі)*
*5 траўня - Вялікдзень (праваслаўны)*
*14 траўня - Радаўніца*
*1 траўня - Дзень працы*
*9 траўня - Дзень перамогі*
*3 ліпеня - Дзень незалежнасці*
*7 лістапада - Дзень Рэвалюцыі*
*25 снежня - Каляды (каталіцкія)*



**900** год (1102 г.) заснавання Барысава князем Барысам;
**440** год (1562 г.) найбольш старога пісьмовага ўзгадвання Вяляцічаў;
**435** год (1567 г.) найбольш старога пісьмовага ўзгадвання Майсееўшчыны;
**425** год (1577 г.) надання Барысаву прывілеі Стэфанам Баторыем;
**420** год (1582 г.) найбольш старога пісьмовага ўзгадвання Брылёў, Бытчы, Кіміі і Студзёнкі;
**410** год (1592 г.) найбольш старога пісьмовага ўзгадвання Будзеніч;
**400** год (1602 г.) найбольш старога пісьмовага ўзгадвання Нівак (Мсціжскага с/с);
**375** год (22 лютага 1627 года) наданне Лошніцы прывілеі Жыгімонтам Вазай;
**360** год (1642 г.) найбольш старога пісьмовага ўзгадвання Дзедзелавіч і Жыцькава);
**360** год (26 жніўня 1642 года) заснавання Барысаўскага касцёла;
**245** год (1757 г.) найбольш старога пісьмовага ўзгадвання Навасёлак (Глівінскіх);
**230** год (1772 г.) найбольш старога пісьмовага ўзгадвання вёскі Пагадзіца;
**225** год (1777 г.) найбольш старога пісьмовага ўзгадвання Траянаўкі;
**220** год (25 траўня 1782 г.) з дня нараджэння Сымона Жукоўскага (вёска Горны Мсціжскай парафіі) – філолага, заслужанага прафесара Віленскага універсітэта, аўтара шматлікіх кніг і артыкулаў;
**210** год (14 чэрвеня 1792 г.) надання Барысаву поўнага магдэбурскага права і герба;
**190** год (26 – 28 лістапада 1812 года) пераправы Напалеона праз Бярэзіну і бітвы ля Студзёнкі і на Брылёўскім полі;
**90** год (25 лістапада 1912 г.) з дня нараджэння Яўгена Замерфельда - паэта, педагога;
**80** год (14 студзеня 1922 г.) з дня нараджэння Васіля Ігнатовіча - заснавальніка музея народнай славы ў Іканах;
**75** год (21 сакавіка 1927 г.) з дня нараджэння Галіны Васюковай - пісьменніцы;
**65** год (9 студзеня 1937 г.) з дня нараджэння Леаніда Рашкоўскага - паэта;
**55** год (25 лістапада 1912 г.) з дня нараджэння Васіля Гігевіча - пісьменніка.

# Спартыўны агляд


Супрацоўнік газеты І.Белы ўручае прыз Ігару Балаболаву

## Узнагароджанне пераможцаў

*У суботу 8 снежня адбылося ўзнагароджанне пераможцаў конкурсу для заўзятараў футбола, што праводзіла на працягу 2001 года наша газета.*

За першае месца Віктар Бойка атрымаў футбольны мяч. За другое месца Ігар Балаболаў быў узнагароджаны будзільнікам – кркамерам. Нагадаем, што шэсць найбольш актыўных удзельнікаў конкурсу, якія набралі большую колькасць ачкоў, атрымалі бясплатную падпіску на газету "Гоман Барысаўшчыны" на першае паўгоддзе 2002 года.

*Служба інфармацыі "ГБ"*


Віктар Бойка - пераможца конкурсу

## Успаміны аб былом

*Сёння мы прапануем вам кароткую гутарку з былым гульцом Фамальгаўта і БАТЭ Міхаілам Жоравым. Сёлета ён гуляў за каманду Барысаўскага раёна – Гайну, што выступае ў першынстве вобласці.*

**Міхаіл, што Вы скажаце аб Фамальгаўце?**

- Выдатная была каманда.

**Як прайшоў працэс пераходу з Фамальгаўта ў БАТЭ?**

- Пераход з адной каманды ў іншую адбыўся вельмі ўдала. На той момант у БАТЭ быў вельмі добры калектыў, у ёй усё спадабалася...

**Які момант Вам узгадваецца больш за ўсё?**

- Перамога БАТЭ над Руарам. У ёй мне давялося забіць гол і зрабіць галявую перадачу Зубкоўскаму.

**Якія матчы былі найбольш удалымі?**

- Тыя, у якіх Юры Іосіфавіч выпускаў мяне на замену ў другім тайме і ўдавалася забіць два мячы.

**Як ваша сям'я?**

- Ёсць жонка і самае для мяне каштоўнае – мая дачушка Машанька.

**Хто Ваш лепшы сябар?**

- Аляксей Дзёмін. Яму я зычу вялікіх поспехаў у спорце.

**Што б Вы пажадалі маладым футбалістам?**

- Па-першае, гуляць у футбол і сур'ёзна ставіцца да яго. Па-другое, не рабіць памылак, аб якіх потым давядзецца шкадаваць.

*Гутарку вёў С.Чарнуха*

## І зноў парадвалі нас "Грошы"

30 лістапада ў Палацы культуры завода "Аўтагідраўзмацняльнік" прайшоў дабрачынны канцэрт барысаўскага гурта "Грошы". На ім прагучалі як іх добра вядомыя хіты, такія як "Ночка", "На белой прастыні" і інш., так і канцэртная тэма "Вар"яцкі палёт", якая выконвалася ўпершыню. Падчас выступу "Грошы" выканалі песню, якая была прысвечана Джорджу Харысану. Аматары музыкі 70-х маглі пацешыцца ад выканання аднаго з твораў у рытме блюз-металу.

"Грошы" паспяхова выступаюць не толькі ў родным горадзе, але і ў менскіх клубах "Star club", "Reactor", "Белая вежа". Першага снежня павінен быў адбыцца іх канцэрт у клубе "База". Музыкі з Барысава там, як і ў сваім горадзе, мае нямала прыхільнікаў.

*С.Байрашэўскі*



### Футбол

2 снежня ў гарадскім Палацы культуры адбылося ўзнагароджанне гульцоў БАТЭ бронзавымі медалямі.

Узнагароды ўручыў віцэ – прэзідэнт Беларускай федэрацыі футбола Віктар Шукан і галоўны суддзя першынства Юры Савіцкі. Былі ўручаны спецыяльныя прызы – "За адданасць клубу" Аляксандру Федаровічу, "Лепшаму футбалісту" - Арцёму Канцавому, "Самы прыгожы гол" - Арцёму Ганчырыку за гол у вароты "Тарпеда" Менск, "Лепшаму гульцу дубля" – Валерыю Тарасёнку.

Кіраўніцтва БАТЭ на наступны сезон паставіла перад камандаю задачу – заваяванне чэмпіёнскага тытулу.

* * *

З камандай БАТЭ заключыў кантракт выхаванец "Змены" паўабаронца Міхаіл Афанас'еў.

* * *

Кіраўніцтва жодзінскага "Тарпеда" пачало перамовы з кіраўніцтвам БАТЭ аб набыцці паўабаронцаў Аляксандра Лісоўскага і Аляксандра Ермаковіча.

* * *

Аляксандр Глеб вельмі ўдала гуляе за Штутгарт у бундэслізе Нямеччыны. Ніяк не можа трапіць у асноўны склад італьянскага "Мілана" Віталій Кутузаў. Пажадаем яму поспехаў.

* * *

У складанае становішча трапіў нападаючы БАТЭ Мікалай Рындзюк, што гуляе за турэцкі "Газіантэпспар". Клуб не выконвае фінансавых абавязкаў, за што Мікалай і адмаўляецца гуляць.

* * *

Вырашаны ўсе пытанні з пераходам у БАТЭ Алега Стахіновіча з берасцейскага Дынама. Вядуцца перамовы аб пераходзе Валерыя Стрыпейкіса з мазырскай Славіі.

* * *

У лістападзе Віталій Кутузаў двойчы выходзіў на гульню ў складзе Мілана ў кубку Італіі супраць Перуджы. Першы раз ён згуляў 7 хвілін, другі – 15.

* * *

Трэнер футбольнага клуба БАТЭ Юры Пунтус ездзіў на стажыроўку ў каталонскую "Барселону".

### Міні-футбол

Энергетык (Новалукомль) – Барысаў-900, 5:5 (Сытаў 24, Вараб'ёў 27, Паўлавец 33, Бакун 35, Свядыш 38).

Падобна на тое, што барысаўцы ўпершыню сустрэліся з супернікамі, якія не саступаюць ім па класу. На падставе статыстыкі матчаў паміж камандамі можна зрабіць выснову, што нават нічыя ў гульні для гульцоў з нашага горада з'яўляецца здабыткам. Брамнік Шчуцкі змог адбіць два пенальці. На працягу гульні госці прайгравалі 0:2, 1:3, 2:4 і 4:5, але знайшлі ў сябе сілы зраўняць лік.

* * *

**Барысаў-900 – Агат (Жлобін)**, 8:3 (Круглік 5, Паўлавец 11, Свядыш 14, Ларыёнаў 17, Басацкі 24, Лампартэр 30, Спірыдонаў 32, Свядыш 36).

Сустрэча прайшла пры поўнай перавазе каманды Барысаў-900. З пачатку да канца сустрэчы не было ніякіх сумненняў у перамозе гаспадароў. Застаецца шкадаваць, што шмат момантаў не было выкарыстана.

* * *

Барысаўскія хлопцы 1989 года нараджэння занялі першае месца на спаборніцтвах Менскай вобласці. Трэніруе іх – Гурскі Рыгор Трыфанавіч.

### Валейбол

У межах гарадской спартакіяды прайшло першынство горада па валейболу сярод школ, якія маюць звыш тысячы вучняў. Месцы размеркаваліся наступным чынам:

1. СШ № 16;
2. Гімназія № 1;
3. СШ № 23;
4. СШ № 24;
5. СШ № 20;
6. СШ № 8;
7. СШ № 22;
8. СШ № 18.

Сярод школ да 1000 вучняў сярод юнакоў вынікі наступныя:

1. СШ № 15;
2. СШ № 13;
3. СШ № 17;
4. СШ № 11;
5. СШ № 1;
6. СШ № 2;
7. Гімназія № 3.

Сярод школ да 1000 вучняў каманды дзяўчат занялі месцы ў наступным парадку:

1. Гімназія № 2;
2. СШ № 15;
3. СШ № 13;
4. СШ № 11;
5. СШ № 2;
6. СШ № 12;
7. СШ № 17.

### Баскетбол

Адбыліся матчы Бярэзіна **(Барысаў) – Алімпія (Горадня)**. Яго вынік 88:70, 66:72.

Першая гульня прайшла пры перавазе барысаўчанак. У іх атрымлівалася ўсё хутчэй. Другая гульня прайшла ў роўнай барацьбе. Аднак у ёй больш пашанцавала баскетбалісткам з Горадні.

### Гімнастыка

З 12 па 16 лістапада ў Гомелі праходзілі алімпійскія дні сярод моладзі. Сярэбраным прызёрам у шматбор'і па праграме кандыдатаў у майстры спорту стала Вольга Бараўля. Яна перамагла ў практыкаваннях на брусах і заняла трэцяе месца ў апорным скачку.

### Бокс

Барысавец Алег Какшынскі на міжнародным турніры ў Гомелі дайшоў да фіналу на адкрытым кубку Беларусі, дзе ўдзельнічалі прадстаўнікі Францыі, Ізраіля, краін Балтыі, Расіі. Віталь Страдзэ трапіў у паўфінал.

*Агляд падрыхтаваў С.Чарнуха*

## Вазьміце на заўвагу

Адным з найбольш відавочных і ўстойлівых "дасягненняў" сучаснага гарадскога жыцця з'яўляецца масавая хваравітасць і дарослых, і дзяцей. А ці ёсць ад гэтага ратунак? Ёсць. Танны і даступны. Трэба толькі азірнуцца назад, і людзі старэйшага пакалення скажуць, што было абавязковым спадарожнікам традыцыйнага зімовага харчавання. Гэта прадажальнік жыцця - часнок. Вырошчваюць яго з незапамятных часоў.

Найважнейшая частка расліны - цыбуліна. Тут знаходзяцца эфірны алей з вострым спецыфічным пахам, вітаміны і мікраэлементы - біякаталізатары розных жыццёвых працэсаў. Часнок вылучае і лятучыя рэчывы - фітанцыды, яны знішчаюць хваробатворныя мікробы. Часнок валодае ўласцівасцямі рэгулявання развіцця мікраарганізмаў у страваводзе, калькасці халестэрыну ў крыві і супрацьдзеяння склерозу, паніжэння ціску крыві і інш. Найтралізуе тлушч у стравах. Устрымлівае развіццё розных пухлін, карыесу: "Каб мець белы зубок, грызі штодня часнок". Ён жа найлепшы засцерагальны сродак ад грыпу і іншых інфекцый.

Спосаб ужывання часнаку самы простыя: есці проста так, націраць на скарыныцы хлеба, дадаваць расцёртым у стравы (пры расціранні зубкоў не прымяняць нічога металічнага). Кампрэсы з расцёртага часнаку, прыкладзеныя да падэшваў ног, на грудзі добра лечаць прастуду, горла. Яны - таксама добры сродак на рэўматычныя захворванні і болі. Многіх палохае і нервуе пах пасля ўжывання часнаку. Але і ад гэтага ёсць добры сродак - не разяваць рот і не дужа хіліцца да таго, хто знаходзіцца побач, што, дарэчы, і без часнаку непрыгожа.

*М.Пучыла*

## З гаспадарчага дзённіка Ганны Цюндзявіцкай

### Як абыходзіцца з валасамі і прадухіліць іх выпадзенне

Валасы, безумоўна, з'яўляюцца адным з лепшых упрыгожанняў жанчыны, і таму на іх догляд трэба звярнуць асаблівую ўвагу і клопаты.

Ад распарвання галавы на мяккіх пуховых падушках валасы выпадаюць, таму, каб пазбегнуць гэтага, належыць ужываць толькі саф'янавыя падушкі. Вельмі шкодзіць валасам таксама і расчэсванне чужымі грабеньчыкамі і шчоткамі. З тае прычыны варта пільна сачыць, каб нават цырульнік і служанкі, прычэсваючы гаспадыню, ніколі не грабеньчыкаў не заколвалі ў свае валасы, як яны часта робяць, калі не жадаюць далёка выцягваць руку.

Моцнае расчэсванне шчоткай і пагладжванне валасоў уранку і ўвечары надае ім прыгожы бляск і захоўвае роўны колер. Неахайна ж і нестаранна дагледжаныя, яны будуць заўсёды на канцах святлейшыя ці мець палосамі адценне.

Штомесяц у маладзік абавязкова падразаюць канцы валасоў – гэта дапамагае іх росту, захоўвае ад выпадзення і ломкасці альбо расшчаплення канцоў. У наш час упэўніліся, што нельга стрыгчы ў дзяцей тыя валасы (таму часцей за ўсе іх адрошчваюць), з якімі яны нарадзіліся. Аднак калі пасля хваробы ці з іншай важнай нагоды неабходна тое рабіць, тады на працягу некалькіх тыдняў штодзённа патроху адразаюць, пакуль валасы не стануць пажаданай даўжыні. Такая перасцярога прадухіляе розныя адмоўныя вынікі для вачэй і вушэй, што можа выклікаць хуткая стрыжка.

Калі валасы занадта тлустыя ці поры скуры галавы закупорваюцца лускавінкамі, якія пакрываюць скуру, валасы могуць выпадаць, а часам з'яўляюцца галаўныя болі. Таму валасы належыць увільготніць адэкалонам ці лавандавай гарэлкай, а то і спіртам альбо аракам і грабеньчыкам старанна выскрабці лускавінкі. Лыга таксама сухі размарын заварыць, як гарбату, і добра настоеным змочваць галаву для захоўвання выпадаючых валасоў.

*Перадаў М.Пучыла*

# Да ўвагі моладзі і ўсіх, хто выбірае прафесію!



***У жыцці кожнага чалавека - гэта складаны і адказны крок, ад якога будзе залежыць уся далейшая яго дзейнасць. Ці знаёмы вы з багатай разнастайнасцю прафесій? Ці дазваляюць вашы здольнасці і магчымасці авалодаць адной з іх? Адказы на гэтыя і іншыя пытанні вы знойдзеце ў прафкансультацыйным пункце***

## Барысаўскага рэгіянальнага цэнтра занятасці насельніцтва



Дасведчаныя прафкансультанты дапамогуць вам зрабіць правільны выбар

***Да Вашых паслуг:***

- ✔ *банк дадзеных па навучальных установах рэспублікі;*
- ✔ *поўнае апісанне больш чым 100 прафесій (пасад), якія ўключаюць наступную інфармацыю: характарыстыка прафесіі (пасады), змест выконваемай работы, патрабаванні, што прад'яўляюцца да асобы, да адукацыі, умовы і перспектывы вучобы і работы, дадатковая інфармацыя;*
- ✔ *кароткае апісанне 200 прафесій (пасад);*
- ✔ *больш за 50 відыяфільмаў па розных спецыяльнасцях.*




**Наш адрас: г.Барысаў, вул 8 Сакавіка, 1**

**Тэлефон для даведак 3-93-32, 3-92-22**

Рэжым работы: Панядзелак – пятніца $8^{00}$ – $13^{00}$, $14^{00}$ – $17^{00}$. Выхадныя дні – субота, нядзеля

***Вы зможаце:***

- ✔ *самастойна вызначыць свае прафесійныя здольнасці, зацікаўленасці і схільнасці, якія могуць садзейнічаць вашаму поспеху ў навучанні і рабоце;*
- ✔ *абмеркаваць з прафкансультантам праблемы і планы выбару прафесіі;*
- ✔ *атрымаць інфармацыю аб прафесіях, спецыяльнасцях, навучальных установах, аб становішчы на рынку працы на сённяшні час;*
- ✔ *праглядзець відыяфільмы аб прафесіях.*

## *Прафесійны гараскоп*

**Авен** (21 сакавіка – 20 красавіка)
**Прафесійна важныя якасці:** самастойнасць ацэнак, актыўнасць, моц перакананняў, энергічнасць, імпульсіўнасць, хуткасць рэакцыі, уменне дамагацца мэтаў, смеласць, арганізатарскія здольнасці, адкрытасць, схільнасць выкладаць, выхоўваць, любоў да прыроды, вандровак.
**Сферы прафесійнай дзейнасці:** навука, палітыка, мастацтва, медыцына, вайсковая справа, авіяцыя, касманаўтыка, педагогіка, сфера абслугоўвання, сельская гаспадарка.

**Цялец** (21 красавіка – 20 траўня)
**Прафесійна важныя якасці:** аб'ектыўнасць, цярпенне, назіральнасць, сканцэнтраванасць, грунтоўнасць, лоўкасць, здольнасць авалодаць любымі навыкамі, самавалоданне, практычнасць, справядлівасць, надзейнасць, пунктуальнасць, любоў да лічбаў, фактаў, здольнасць накапліваць вопыт.
**Сферы прафесійнай дзейнасці:** прыкладная навука, мастацтва, журналістыка, садавоцтва, спорт.

**Блізняты** (21 траўня, 21 чэрвеня)
**Прафесійна важныя якасці::** творчыя здольнасці, шырыня мыслення, цікаўнасці, багатая фантазія, уменне вылучаць галоўнае, красамоўства, крытычнасць, тонкі смак, рухомаць, хуткасць рэакцыі, абаянне, дзелавітасць, таварыскасць, любоў да разнастайнасці, вандраванняў.
**Сферы прафесійнай дзейнасці:** эксперыментальная навука, тэхніка (атамная, касмічная, авіяцыйная, карабельная, вылічальная, электронная), мастацтва (у тым ліку і прыкладное), спорт, філалогія.

**Рак** (22 чэрвеня – 22 ліпеня)
**Прафесійна важныя якасці:** развітая інтуіцыя ў спалучэнні з ведамі і вопытам, багатая фантазія, аналітычная здольнасць, добрае валоданне лічбамі, адчувальнасць, асцярожнасць у дзеяннях, велікадушша, турботлівасць, спачувальнасць, імкненне ўсё вымяраць, узважваць, ацэньваць, а таксама збіраць, апрацоўваць, накапліваць інфармацыю.
**Сферы прафесійнай дзейнасці:** бізнес, медыцына, мастацтва, дэкаратыўнае кветкаводства, кулінарскае ўмельства, банкаўская справа, тэхніка.

**Леў** (23 ліпеня – 23 жніўня)
**Прафесійна важныя якасці:** творчыя здольнасці, красамоўства, здольнасць да сістэматызацыі, пачуццё колеру, формы, рытму, моц волі, упэўненасць у сабе, працаздольнасць, прадпрымальнасць, адказнасць, дысцыплінаванасць, славалюбства, адкрытасць, непадкупнасць, намаганне ўплываць на грамадскую думку, кіраваць, весці за сабою.
**Сферы прафесійнай дзейнасці:** прамысловасць, медыцына, гандаль, вайсковая справа, мастацтва, спорт, інфарматыка, вылічальная тэхніка, рэклама, філалогія, педагогіка.

**Дзева** (24 жніўня – 23 верасня)
**Прафесійна важныя якасці:** аналітычныя здольнасці, выдатная памяць, разважлівасць, адказнасць, пунктуальнасць, умелыя рукі, арганізатарскія здольнасці, беражлівасць, тактычнасць, інтэлігентнасць, пачуццё цудоўнага, патрэбнасць служыць людзям.
**Сферы прафесійнай дзейнасці:** гандаль, банкаўская справа, прыродазнаўства, педагогіка, медыцына, будаўніцтва, прыкладное мастацтва.

**Вагі** (24 верасня – 23 кастрычніка)
**Прафесійна важныя якасці:** здольнасць да абстрактнага мышлення, матэматычныя здольнасці, імкненне да гармоніі і дасканаласці, дыпламатычнасць, абаянне, элегантнасць, самастойнасць, уменне настаяць на сваім, таварыскасць, цярпімасць, гатоўнасць дапамагаць, гнуткасць і здольнасць прыстасоўвацца да людзей і розных умоў.
**Сферы прафесійнай дзейнасці:** мастацтва (асабліва тэатр, кіно, жывапіс, літаратура), юрыспрудэнцыя, археалогія, эканоміка, навука, вылічальная тэхніка.

**Скарпіён** (24 кастрычніка – 22 лістапада)
**Прафесійна важныя якасці:** стратэгічнае мысленне, рэалістычнасць, цікаўнасць, дынамічнасць, працаздольнасць, схільнасць збіраць і ацэньваць інфармацыю, цікаўнасць да спрадвечных таямніцаў жыцця, справядлівасць, адказнасць, дысцыплінаванасць, сумленнасць, уменне ладзіць з людзмі.
**Сферы прафесійнай дзейнасці:** філасофія, філалогія, фізіка, хімія, сельская гаспадарка, мастацтва (музыка, тэатр), банкаўская справа, педагогіка, медыцына.

**Стралец** (23 лістапада – 21 снежня)
**Прафесійна важныя якасці:** творчы пачатак, багатая фантазія, дынамічнасць, мэтанакіраванасць, працаздольнасць, схільнасць да рызыкі, упэўненасць у сабе, аптымізм, адказнасць, арганізатарскія здольнасці, натуральнасць у зносінах, абвостанае пачуццё справядлівасці, імкненне кіраваць.
**Сферы прафесійнай дзейнасці:** мастацтва, правазнаўства, медыцына, філалогія, авіяцыя геалогія.

**Казерог** (22 снежня – 20 студзеня)
**Прафесійна важныя якасці:** аб'ектыўнасць, вынаходлівасць, энтузіязм, рэалістычнасць, працаздольнасць, славалюбства, адказнасць, упартасць, самастойнасць, турботлівасць.
**Сферы прафесійнай дзейнасці:** навука, гандаль, прамысловасць, палітыка, дыпламатыя, будаўніцтва, архітэктура, горная справа, сельская гаспадарка, філасофія, тэалогія, мастацтва.

**Вадалей** (21 студзеня – 19 лютага)
**Прафесійна важныя якасці:** дапытлівасць, вынаходлівасць, крытычнасць, мудрасць, знаходлівасць, дынамічнасць, артыстызм, працалюбства, таварыскасць, цярпімасць, адказнасць, незалежнасць.
**Сферы прафесійнай дзейнасці:** навука, тэхніка, мастацтва, філалогія, педагогіка.

**Рыбы** (20 лютага – 20 сакавіка)
**Прафесійна важныя якасці:** імкненне да гармоніі, дапытлівасць, патрэбнасць у інфармацыі, інтуіцыя, музычныя здольнасці, гуллівасць, вынослівасць, добрая рэакцыя, таварыскасць, спачувальнасць, цярпімасць, грунтоўнасць.
**Сферы прафесійнай дзейнасці:** навука, літаратура, мастацтва, тэхніка, медыцына, банкаўская справа, педагогіка, спорт.

# Крыжаванка

***складзена па матэрыялах гэтага нумара***

**Па гарызанталі:** 1 – тутэйшы грамадскі дзеяч першай паловы XX стагоддзя; 2 – барысаўскі баскетбольны клуб; 3 – вёска на Барысаўшчыне; 4 – вуліца ў Барысаве; 5 – татарскі князь, які жыў у XVI стагоддзі ў Крычыне; 6 – тутэйшы гурт; 7 – вёска на Барысаўшчыне; 8 – былы барысаўскі футбольны клуб; 9 – землеўладальнік у Крычыне ў XVI стагоддзі; 10 – вёска на Барысаўшчыне; 11 – вёска на Барысаўшчыне; 12 – вуліца ў Барысаве; 13 – тутэйшы тэатр; 14 – вёска на Барысаўшчыне; 15 - вёска на Барысаўшчыне.




**Адказы на крыжаванку,** што змешчана ў “ГБ” № 11(32): 1 - БАТЭ; 2 - Папірус; 3 - Ганчарык; 4 - Грошы; 5 - Жыўноў; 6 - Мсціж; 7 - Галіцкага; 8 - Глівіна; 9 - Юшкевічы; 10 – Любатоўшчына; 11 – Відарыс; 12 – Негатыў.

# Лічбавая крыжаванка

Ніжэй прыведзены пералікі лічбаў, якія згрупіраваны па іх колькасці. Вам неабходна падабраць і запісаць у незафарбаваныя радкі і слупкі лічбы такім чынам, каб супалі іх усе перасячэнні.

**11:** 13596447962, 99100489561;
**10:** 1765612569, 4455146514, 4896155694, 5265748461;
**9:** 332158962, 486423142;
**7:** 1432854, 2345679, 3178954, 3464567, 4265565, 7493751;
**6:** 156720, 179422, 421681, 914975;
**5:** 12244, 12364, 14324, 14987, 15474, 16774, 29255, 36489, 45654, 48965, 54321, 57774, 64567, 67833, 68126, 78687, 85407, 99019;
**4:** 1044, 1235, 1382, 1529, 1541, 2544, 3429, 4018, 4141, 4145, 4156, 5434, 5454, 5555, 5875, 6315, 6416, 6543, 6688, 7374, 7432, 7589, 8415, 8445, 8615, 8744, 8778, 8951, 9258, 9716;
**3:** 101, 134, 149, 229, 267, 415, 421, 528, 532, 542, 572, 643, 648, 687, 756, 945, 968, 999;
**2:** 24, 42.







# Важныя і вялікія словы

Няма ў чалавеку нічога прыгажэй і даражэй Радзімы. Чалавек без Радзімы – убогі чалавек.

*Я.Колас*

* * *

Не шукай ты шчасця, долі
На чужым далёкім полі.

*Я.Купала*

* * *

Скарб, які ніхто і ніколі адабраць у нас не зможа, - гэта любоў да айчыны, да свайго народу, да роднай мовы.

*Цётка*

* * *

Кожны чалавек - гэта цэлы свет.

*К.Чорны*

* * *

Чалавек залежыць ад часу. У гэтым толькі частка праўды. Разам з тым бясспрэчна і тое, што час таксама залежыць ад чалавека. Асабліва ад вялікага чалавека.

*І.Мележ*

* * *

Бяда і радасць ходзяць побач вечна,
Людзей ратуе толькі чалавечнасць.

*П.Панчанка*

* * *

Трэба ведаць, што без веры ў чалавека не можа трымацца не толькі сям'я,.. але і цэлая дзяржава.

*К.Чорны*

## Ці ведаеце вы, што...

Першая электрастанцыя на Барысаўшчыне пачала дзейнічаць у Старабарысаве на пачатку XX стагоддзя.

Першымі ў Барысаве дамы былі электрафікаваны ў 1918 годзе падчас нямецкай акупацыі.

# Японская крыжаванка

У японскай крыжаванцы неабходна адгадаць не словы ці размяшчэнне лічбаў, а выяву. Лічбы паказваюць, колькі груп чорных клетак знаходзяцца ў адпаведным радку або слупку і колькі суседніх чорных клетак утрымлівае кожная група. Групы падзелены паміж сабою не менш чым адной пустой клеткай. Пустыя клеткі могуць быць і па краях поля.



# Беларускія жарты

### Сваю службу знае

Адзін пан пытаецца раз у свайго фурмана, ці той паедзе з ім у вялікую дарогу.
- За вамі, пане, усюды, - адказвае фурман.
- Як гэта ўсюды? Нават у пекла?
- Нават у пекла.
- Але падумай сабе, што ў пекле надта ж горача, агонь.
- Нічога, пане, - кажа фурман, - я сваю службу ведаю. Высаджу пана ў пекле, а сам, як заўсёды, буду чакаць перад брамай.

### Рахунак шаўцоў

Шавец, адрабіўшы ў пана, падаў такі рахунак за сваю працу:
"Пану падбіў падносікі і прышыў вушы.
Панскай жонцы паправіў нос і расцягнуў на капыле.
Цётцы прышыў два язычкі.
Наймічцы перашпількаваў падэшвы і перацягнуў заднік".

***Падрыхтаваў М.Пучыла***

**Адказы на японскую і лічбавую крыжаванкі, што былі змешчаны ў “ГБ” № 7(28)**





ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

Рэгістрацыйны нумар 595

Заснавальнікі: І.Белы, У.Буйко, У.Дубаневіч, М.Мацельскі, М.Пучыла.

Рэдактар М.Мацельскі

Юрыдычны адрас рэдакцыі: г. Барысаў, 1-ы зав. К.Лібкнехта, 1

Наклад 3000 паасобнікаў

Падпісана ў друк 17.00 11.12.2001 г.
Замова № 7643
Друкарня імя 1-га Мая
г. Барысаў, вул. Будаўнікоў, 33
e-mail: gomanbar@irex.minsk.by

*Адрас для пісьмаў: 222120, Барысаў-1, а/с 43*